адна зямля




Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

7 лістапада 2003 года

№ 45 (446)

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года

плюс Тэлетыдзень

## Навіны рэгіёну

### Махінацыям канец

**АСТРАВЕЦ.** За няправільнае афармленне дакументаў больш чым на 20 машын на супрацоўнікаў мытнага паста "Лоша" ўзбуджаны крымінальныя справы. Цяпер адзін з іх знаходзіцца ў следчым ізалятары Гродна, два – Смаргоні. Махінацыі выкрыліся падчас праверкі Смаргонскім міжраённым аддзелам па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй.

Ірына РАБУШКА.

### Хварэць не будзем?

**МАЛАДЗЕЧНА.** На мінулым тыдні ў гарадской паліклініцы пачалі рабіць прышчэпкі ад грыпу. Прышчапілі больш за 300 маладзечанцаў. Вакцыны расійскай вытворчасці хопіць яшчэ на 6 тысяч чалавек. Але, як сказала намесніца галоўнага доктара ГТМА па паліклінічнай рабоце **Тамара Сіўцэвіч**, вакцыны супраць грыпу горад патрабуе ў тры разы больш.

Ірына РАБУШКА.

### Ноу-хау мастака

**АШМЯНЫ.** Мясцовы мастак-аматар Пётр Явідовіч прыдумаў ноу-хау ў напісанні карцін. У сераду ў раённым цэнтры народнага мастацтва адкрылася яго выстава "Восеньскія матывы" ў стылі вадзяной абстракцыі. Па словах мастака, галоўны сакрэт яго твораў у тым, што кожны бачыць у іх свае вобразы.

Ірына РАБУШКА.

### Ратуйце сем'і

**ВІЛЕЙКА.** Колькасць дрэнных сем'яў, дзе п'юць бацькі альбо дзеці, штогод павялічваецца. Па звестках Вілейскага тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання сям'і і дзяцей "Дыялог", у 2001 годзе іх было 180. Сёлета гэта лічба павялічылася амаль удвая.

Ірына РАБУШКА.

### Рэха даўніны

**СМАРГОНЬ.** Вадзяны млын у Жодзішках, руіны замка ў Крэве і іншыя помнікі даўніны ўвайшлі ў спіс ахоўваемых аб'ектаў на Смаргоншчыне. Для жыхароў населеных пунктаў будзе вялікім адкрыццём, што тут знаходзіліся паселішчы продкаў.

Ігнат КАРЫЦКІ.



# Дзе баязліўцам не месца

**СМАРГОНЬ. Сапраўдная "сабачая акадэмія", падобных якой няма ў Беларусі, размешчана непадалёк ад Смаргоні. Горада, які славіўся калісьці сваёй "мядзведжай акадэміяй".**

"Будаўніцтва кіналагічнага цэнтра памежных войскаў, — расказвае яго начальнік **Уладзімір Жалдыбін**, — пачалося ў 1995 годзе. Работы ішлі за кошт саюзных грошай Расіі і Беларусі. А першая чарга ўступіла ў строй толькі праз тры гады".

Адзінае кіналагічнае падраздзяленне ў краіне рыхтуе спецыялістаў кінолагаў па пошукавай і спецыяльнай службе. Праз чатыры месяцы ваеннаслужачыя тэрміновай службы выходзяць адсюль сапраўднымі спецыялістамі і разам са сваімі чацвераногімі сябрамі – сабакамі — адпраўляюцца служыць па месцы прызначэння.

"Вось і цяпер у цэнтры праходзіць навучанне група курсантаў у складзе 12 чалавек, — расказвае намеснік начальніка **Васілій Захаранка**. — Разам са сваімі гадаванцамі яны настойліва трэніруюцца. Заняткі праходзяць як днём, так і ноччу".

"Напарнікаў для будучай работы, — гаворыць начальнік гадавальніка пародзістых сабак **Алег Ядзевіч**, — курсанты выбіраюць для сябе самі. Найбольш прыдатныя для дрэсіроўкі сабакі ва ўзросце ад чатырох месяцаў да года. Але і яны, перш чым трапіць на вучэбны палігон, праходзяць своеасаблівую праверку ў выглядзе тэсціравання. Спецыялісты адбракоўваюць і накіроўваюць у іншыя службы як сабак баязлівых, так і агрэсіўных. З першымі працаваць немагчыма, з апошнімі – небяспечна".



Курсант Смаргонскага кіналагічнага цэнтра старшы сяржант Уладзімір ЛАЎРЫНОВІЧ разам са сваім выхаванцам Дэем у час вучэбных заняткаў.

Фота Сяргея МАЦЮШОВА.

У гадавальніку разводзяць некалькі парод сабак, сярод якіх нямецкая і каўказская аўчаркі, кокер-спаніель, ратфелер, лабрадор. Першага прадстаўніка гэтага роду чацвераногіх прывёз смаргонцам генерал-лейтэнант пагранічных войск **Аляксандр Паўлоўскі** і са словамі: "Не загубі!" уручыў начальніку цэнтра. Ветэрынар па адукацыі, ён трымаў шчаня дома, а калі тое падрасло, перадаў спецыялістам гадавальніка.

Рука ў генерала аказалася лёгкай. 45 лабрадораў, якія служаць у розных кутках Беларусі, выгадавалі за гэты час у смаргонскай "акадэміі". Сабакі гэтай пароды часцей за ўсё служаць на мытнях і правяраюць разам са сваімі гаспадарамі транспарт і груз на наяўнасць наркатычных сродкаў і ўзрыўчаткі.

Сёння ў гадавальніку, які размешчаны на тэрыторыі кіналагічнага цэнтра, жывуць 75 дарослых сабак і 43 шчаняці. У чацвераногіх сяброў чалавека ёсць свая ветэрынарная бальніца з аперацыйнай і кабінетам фізіяпрацэдур, радзільнае, інфекцыйнае аддзяленні, а таксама аддзяленні па вырошчванні шчанят, па рабоце з племяннымі сабакамі. Працуе сталоўка, у якой тры разы на дзень вараць ежу спрактыкаваныя повары, утрымліваюцца ў парадку спецыяльныя вальеры.

Сабакі апраўдваюць сябе. Статыстыка сведчыць, што прыкладна палову парушальнікаў дзяржаўнай мяжы затрымліваюць пагранічнікі дзякуючы менавіта ім. У галоўнай "акадэміі" рады за "выпускнікоў", якія побач з людзьмі надзейна ахоўваюць нашы граніцы.

Марына СЛІЖ.

### Тут яго карані

Бацькі сусветна вядомага стваральніка самалётаў-знішчальнікаў СУ Паўла Сухога паходзяць з Вілейшчыны.

5-я старонка

### Еш, пакуль не запяеш

Паесці як мага хутчэй нам дапамагаюць прадпрыемствы хуткага харчавання.

8-я старонка

### Месяцавае зацьменне

Поўнае ценявое месяцавае зацьменне адбудзецца ў ноч з 8 на 9 лістапада. Пачнецца яно ў 1 гадзіну 32 хвіліны па мясцовым часе.

10-я старонка

■ ФЕСТЫВАЛЬ

# Нашы атрымалі прызы

**МАЛАДЗЕЧНА. Харэаграфічны ансамбль "Сонечныя праменьчыкі" Маладзечанскага палаца культуры на III фестывалі "Напеў зямлі маёй" заняў першае месца.**

З калектываў нашага рэгіёну прызы атрымалі ансамбль эстраднай музыкі "Рэзананс" Маладзечанскага раённага цэнтра культуры і ансамбль народнай песні "Сваякі" Валожынскага цэнтра культуры.

"Мы марылі атрымаць баян, але перастараліся. За другое месца нас узнагародзілі музычным цэнтрам", — сказала па тэлефоне Ала Барадака, дырэктар Валожынскага раённага цэнтра культуры.

Сёлета фестываль, прысвечаны 40-годдзю творчай дзейнасці і 65-годдзю з дня нараджэння Ігара Лучанка, праходзіў у Маладзечне. Удзельнічала больш за 20 калектываў вобласці. Усе яны маюць званне або народнага, або узорнага.

Артысты ансамбля «Сваякі», сказала Ала Барадака, хацелі добра гучаць і выглядаць на сцэне, каб стаць прызёрамі фестывалю. Таму пазычылі баян у Ракаўскім доме культуры. «Цудоўны баян! — пахваліла Ала Барадака. — І так мы з ім «засвяціліся» на сцэне, што журы, мусіць, па гэтай прычыне не вырашыла ўзнагародзіць нас музычным цэнтрам».

Уладальнікам Гран-пры і мікрааўтобуса стала майстэрня абрадавай творчасці "Спас" Мінскага дзяржаўнага каледжа мастацтваў.

**Святлана ЦІШКО.**



**Калі праходзіў фестываль "Напеў зямлі маёй", музычныя дзеянні адбываліся не толькі на сцэне, але і ў фае Маладзечанскага палаца культуры.**
Фота Святланы ЦІШКО.

■ ДЗЕНЬ ПАМЯЦІ

## Крыж для генерала Цікоты

**СМАРГОНЬ. У суботу ў Жодзішках адбылося ўрачыстае асвячэнне помніка ў гонар Андрэя Цікоты, беларускага грэка-каталіцкага святара, генерала Ордэна марыянаў.**

—Аўтар памятнага крыжа ў гонар Цікоты – гродзенскі каваль-мастак Юрась Мацко. Яго калега скульптар Уладзімір Панцялееў выканаў на камені барэльефную шыльду. Колькі месяцаў таму гродзенскія грэка-каталікі ўсталявалі помнік. А ў дзень памінання продкаў адбылося ўрачыстае асвячэнне знака.

Акрамя гродзенскай уніяцкай суполкі, прыехалі грэка-каталікі з іншых рэгіёнаў на чале з апостальскім візітатарам архімандрытам Сяргеем Гаекам. Ён і паведаміў, што Ватыкан ужо пачаў працэс бэатыфікацыі Андрэя Цікоты.

Помнік Андрэю Цікоту – ужо другі мэмарыяльны знак, усталяваны гродзенскімі грэка-каталікамі. У 1998 ў Альбярціне, што пад Слонімам, быў усталяваны крыж у гонар місіі Антона Неманцэвіча, якая мела на мэце адраджэнне уніі ў Заходняй Беларусі. У наступных планах гродзенскай уніяцкай суполкі ўшанаванне памяці Фабіяна Абрантовіча.

**Андрэй Цікота.** Нарадзіўся будучы супрыёр Друйскага кляштару марыянаў Андрэй Цікота на хутары Плавушка. Некаторыя даследнікі падаюць месцам нараджэння Цікоты менавіта Тупальшчыну, але гэта памылка. Два гады таму аўтар гэтых радкоў разам з ведамым даследнікам беларускага каталіцкага руху Янкам Трацяком і краязнаўцам Сержуком Лушчыкам выправіліся ў вандроўку па згаданых мясцінах. На пачатку наведалі Плябань (цяпер Маладзечанскі раён) – месца пахавання Юльяна Бакшанскага, які загінуў у баі 4 красавіка 1863 году. На магіле палявога камандзіра і аўтара знакамітай "Адозвы да смаргонскіх сялян", за якую яго расейская ўлада ў 1847-м засудзіла да 12 гадоў катаргі на Нерчынскіх капальнях, быў усталяваны помнік. Сучасныя вандалы збілі з каменю памятную дошку, так што помнік цяпер безыменны. Ад колішняй сядзібы ў Тупальшчыне засталіся толькі рэшткі падмурку. На месцы фальварку цяпер – калгаснае поле. Хата сям'і Цікотаў у суседняй Плавушцы збераглася. На Жодзішкаўскіх могілках захавалася магіла Фелікса Цікоты (1887-1952), старэйшага брата уніяцкага архімандрыта. Ён таксама быў удзельнікам беларускага руху. Узнікла ідэя ўсталяваць побач сімвалічны крыж, паколькі месца пахавання Андрэя Цікоты невядомае. У снежні 1948 года генерал Ордэна марыянаў разам з групай іншых святароў быў арыштаваны кітайскімі ўладамі і перададзены СССР. Згінуў Андрэй Цікота ў Тайшэцкім савецкім канцлагеры.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ, pahonia.promedia.by**



**Ля помніка арганізатары ўрачыстасці ў Вілейцы Уладзімір Малярчук і Аляксей Сюдак.**
Фота Віталя ПАЎЛОЎСКАГА.

## Дзяды ў Вілейцы

ВІЛЕЙКА. 2 лістапада, на Дзяды, актывісты Аб'яднанай грамадзянскай партыі, грамадскай арганізацыі БНФ "Адраджэнне" і Свабоднага прафсаюза правялі мітынг каля помніка на месцы пахавання астанкаў закатаваных вязняў Вілейскай турмы. З кароткімі словамі выступілі арганізатары **Уладзімір Малярчук** і **Аляксей Сюдак.**

Каля трыццаці ўдзельнікаў акцыі ўшанавалі памяць продкаў хвілінай маўчання.

**Віталь ПАЎЛОЎСКІ.**

■ МУЗЫКА

## Канцэрт аркестра «Маладая Беларусь»

**МАЛАДЗЕЧНА. Нядаўна адзначаўся юбілей Маладзечанскага музычнага вучылішча імя Агінскага.**

Было шмат выступленняў, сярод якіх канцэрт сімфанічнага аркестра "Маладая Беларусь". У склад аркестра ўваходзяць студэнты Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, ёсць там і выпускнікі нашага музычнага вучылішча. Калектывам кіруе народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, рэктар Акадэміі музыкі Міхаіл Казінец.

У канцэрце прагучалі творы выдатнага кампазітара-рамантыка Іаганэса Брамса. Партыю скрыпкі выконваў лаўрэат міжнародных конкурсаў Арцём Шышкоў. Яго выканаўчае майстэрства адзначалася віртуознасцю, вялікай натхнёнасцю, эмацыянальнасцю, што выклікала адпаведны настрой у слухачоў. Аркестр мякка і далікатна акампаніраваў салісту, выразна акрэсліваючы рамантычны характар твора багаццем тэмбравай палітры.

Выступленне аркестра ўзбагаціла культурнае жыццё горада новымі яркімі ўражаннямі. Як зазначыў дырэктар музычнага вучылішча Рыгор Сарока, аркестр пакарыў сэрцы слухачоў сваёй энергетыкай, якая зыходзіла менавіта ад маладых выканаўцаў.

**Кацярына ПАПЛЁЎКА, навучэнка IV курса музвучылішча.**

■ МАСТАЦТВА

## Карціны экспануюцца ўпершыню

**МАЛАДЗЕЧНА. Работы мастака Уладзіміра Тамашэвіча з цыкла «Анатомія прасторы» прадстаўлены на выставе ў Маладзечанскім палацы культуры. Як сказала намеснік дырэктара па культурна–масавай рабоце Галіна Акулёнак, сёлета гэта шаснаццатая выстава ў палацы, але карціны Тамашэвіча экспануюцца ўпершыню. Пазнаёміцца з імі можна да 23 лістапада. Групы наведвальнікаў з 8 і больш чалавек могуць заказаць экскурсію.**

— Некаторыя людзі, якія раней не прымалі і не разумелі творчасць Тамашэвіча, на адкрыцці выставы, 28 кастрычніка, змянілі свае погляды, — заўважыў метадыст палаца па выяўленчым і дэкаратыўна-прыкладным мастацтве **Пётр Міхасёнак**, які праводзіць экскурсіі для наведвальнікаў. — Карціны, акрамя 1-2, раней не выстаўляліся. Работы, што прадстаўлены на выставе, выкананыя ў экспрэсіўнай (экспрэсія — сіла выражэння пачуццяў) манеры. Мастак адыходзіць ад ілюстрацыйнасці, спрабуе выказаць свае думкі і першыя ўражанні ад убачанага за кошт святла і колеру.

Паводле звестак Пятра Міхасёнка, гэтая зала не планавалася як выставачная. Але, на думку Уладзіміра Тамашэвіча, яна адна з лепшых у горадзе. «Каб гэтыя сцены дызрабілі белымі, было б зусім цудоўна», — сказаў ён у інтэрв'ю. Пакуль што сцены шараватыя, пры згорнутых жалюзі цёмна, пры разгорнутых святло падае проста на палотны, і яны даюць блікі. Таму, як сказаў Пётр Міхасёнак, плануецца перапланіроўка залы, у выніку якой не толькі палепшыцца асвятленне, але і павялічыцца плошча экспазіцыі.

**Святлана ЦІШКО.**

■ ПЫТАЙЦЕСЯ – АДКАЗВАЕМ



## Маршруты для таксі

**Чаму знялі маршрутнае таксі «Парашкі—атэлье «Бярозка»? Яно так часта выручала, калі не было аўтобуса.**

**Таццяна Чаброўская, Маладзечна.**

На пытанне адказвае начальнік упраўлення эканомікі гарвыканкама **Святлана Галубовіч:**

— Усе маршрутныя таксі перавозяць пасажыраў па рэгулярных гарадскіх маршрутах, як і аўтобусы. Яны павінны працаваць з 6.30 да 15.00 і з 15.00 да 23.30 з паўгадзінным перапынкам у кожнай змене.

Рэгулярнага маршруту «Завод парашковай металургіі—атэлье «Бярозка» не існуе. Гэта ўчастак маршрутаў №2 і №8. Прадпрымальнікі працуюць на ім без дазволу спецыяльнай камісіі пры гарвыканкаме. У бліжэйшы час камісія будзе разглядаць зварот жыхароў мікрараёна «Завод парашковай металургіі», якія скардзяцца на дрэнную работу транспарту.

**Святлана ЦІШКО.**

■ КАМУНАЛЬНАЯ КРАІНА

# ЖКГ чакае зіма

## Беларусы не спяшаюцца ствараць супольныя домаўладанні

**Пасля падключэння цяпла камунальныя выплаты за стандартную трохпакаёвую кватэру складаюць 103 тысячы рублёў, двухпакаёвую — 71 тысячу, аднапакаёвую — 49 тысяч. Між тым, нягледзячы на тое, што якасць паслуг жыллёва-камунальнай гаспадаркі працягвае выклікаць нараканні насельніцтва, большасць кватэранаймальнікаў не падтрымлівае ініцыятывы ўраду наконт стварэння кандамініумаў, паведамляе радыё "Свабода".**



Беларусы не спяшаюцца ўтвараць суполкі па сумесным домаўладанні хаця б таму, што сёння шмат якія праблемы працей вырашыць праз дзяржаўныя камунальныя службы, якія і ржавую трубу своечасова заменяць, і снег з даху скінуць.

Фота Bymedia.net

**Даведка.** Кандамініум. Адзіны комплекс нерухомай маёмасці, у якім асобныя часткі знаходзяцца ва ўладанні грамадзян, юрыдычных асоб, а астатнія часткі (агульная маёмасць) – у агульнай долевай маёмасці. Паняцце «кандамініум» не ўжываецца ў беларускім заканадаўстве, якое выкарыстоўвае паняцці "супольнае домаўладанне" і "таварыства ўласнікаў".

Ацяпляльны сезон пачаўся з шэрагу аварый на цеплатрасах Брэста, Салігорска ды іншых гарадоў, дзе без цяпла заставаліся тысячы сем'яў. На ледзь цёплыя батарэі і нізкую тэмпературу ў кватэрах сталі скардзіцца не толькі ў правінцыі, але і ў сталіцы. Міністр жыллёва-камунальнай гаспадаркі Беларусі Аляксандр Мількота на паведамленні пра аварыі рэагуе надзвычай спакойна: "Чэленджэры" падаюць, а тут, у Салігорску, лопнула 150-міліметровая труба. Дык у чым тут трагедыя? А кажуць, што на гэтай трубе ледзьве не сядзіць увесь Салігорск".

Міністр Аляксандр Мількота, дарэчы, ураджэнец Куранца, кажа, што нельга зусім выключыць аварыі, але здольнае ведамства імкнецца звесці іх да мінімуму. Праблемамі для камунальнікаў застаюцца зношанасць цеплаcетак, асабліва ў невялікіх гарадах, запазычанасць па камунальных выплатах, якая складае да 12%, неэканомнасць у спажыванні цяпла і гарачай вады.

Рынкавыя дачыненні ў сферу камунальнай гаспадаркі прыйшлі хіба што толькі ў выглядзе падвышаных тарыфаў. Заканадаўча ў Беларусі дапускаецца канкурэнтнае асяроддзе ў жыллёва-камунальнай гаспадарцы, ёсць адпаведныя законы і распараджэнні ўрада, ды і Міністэрства ЖКГ нібыта не супраць стварэння прыватных службаў і кандамініумаў, аднак, як кажа спадар Мількота, супраць самі беларусы, "насельніцтва не гатовае". На сёння ў краіне дзейнічае ўсяго 165 таварыстаў супольнага домаўладання. За год супрацоўнікі Мінкамунгасу правялі больш за 6 тысяч сходаў па стварэнні кандамініумаў, выніковымі з якіх сталіся толькі 15.

У самым буйным горадзе нашага рэгіёну Маладзечне сумесных домаўладанняў пакуль не зарэгістравана. Ёсць арганізацыі дольшчыкаў, забудоўшчыкаў, але гэта не тая форма домаўладання, якую мае на ўвазе сапраўдны кандамініум.

Аляксандр Мількота: "З нашым беларускім менталітэтам меркаванне тут простае, як аглобля: у нас ёсць ЖЭС, а не — дык пойдзем у райвыканкам, міністэрства, але свайго даб'ёмся. А з вашым гэтым менеджэрам мы застанемся сам-насам... Таму нам гэтага не трэба", — зазначыў міністр жыллёва-камунальнай гаспадаркі, апраўдваючы манапольнае становішча свайго міністэрства на рынку камунальных паслугаў.

Рэальныя рынкавыя пераўтварэнні немагчымы толькі ў адной галіне эканомікі, прычым такой складанай, як жыллёва-камунальная гаспадарка, і толькі на ўзроўні непасрэднага абслугоўвання жыхароў, а не па ўсім гаспадарчым ланцугу. Непаслядоўныя рэформы сапраўды нявыгадныя грамадзянам, — упэўнены незалежны эканаміст Яраслаў Раманчук: "Калі мы гаворым пра рэформу камунальнага сектару, то трэба гаварыць аб комплексе цэлых рэформаў, а не пра тое, каб вось стварыць кандамініумы, а ўсё астатняе застанецца так, як было".

У АГП распрацоўваецца альтэрнатыўны праект рэфармавання жыллёва-камунальных паслуг, які будзе прадстаўлены публіцы ў пачатку наступнага году. Сутнасць гэтых прапановаў у тым, каб зрабіць канкурэнтнае асяроддзе ў камунальнай сферы, каб пастаўцы гэтых паслугаў змагаліся за спажыўцоў, каб зрабіць адкрытым фармаванне тарыфаў, дабіцца прыцягальнасці інвестыцыяў у гэтую галіну эканомікі, што ўжо назіраецца ў Расеі.

"Рэгіянальная газета" звярнулася да старшыні рэспубліканскай грамадскай арганізацыі "Альтэрнатыва XXI" юрыста Сяргея Балыкіна. Вось што ён сказаў: "Пакуль дзяржаўныя камунальныя гаспадаркі атрымліваюць датацыі з бюджэту, то вялікага сэнсу ствараць таварыствы супольнага домаўладання няма. Такое домаўладанне можа стаць мэтазгодным, калі датацыі будуць не цэнтралізаванымі праз ЖЭСы, а асобным грамадзянам, якія будуць выбіраць, куды гэтыя датацыі перанакіроўваць – у ЖЭС ці у таварыства ўласнікаў.

Тым больш няма ніякага сэнсу ствараць супольнае домаўладанне ў старых будынках, узростам больш за 20 гадоў, дзе зношаныя камунікацыі, якім патрабуецца капітальны рамонт. Праўда ў такім доме каналізацыйную трубу, ЖЭС, як бы там ні было, зліквідуе гэтую аварыю. Сёння такія таварыствы яшчэ могуць быць апраўданымі ў новых будынках, калі яны ўтвараюцца на этапе будаўніцтва, або ў будынках для "крутых". Якія, скажам, абнеслі свой дом плотам, нанялі вартаўніка, могуць аддаць грошы на іншыя дадатковыя выгоды... Але гэта з'ява для Беларусі пакуль не масавая."

**Валерый КАЛІНОЎСКІ,**
**радыё "Свабода",**
**Мікола ГАЙДУК,**
**"Рэгіянальная газета".**

## «Всё выше и выше, и выше...»

**Больш за 95 тысяч рублёў давядзецца заплаціць за камунальныя паслугі, газ і ваду сям'і з трох чалавек, якая жыве ў трохпакаёвай кватэры. Такая сума вынікае з тарыфаў на кастрычнік, прысланых Мінаблвыканкамам у камунальныя службы гарадоў Мінскай вобласці.**

«Гэта жах! Хутчэй бы лета», — сказала Ірына, жыхарка дома №4а па вуліцы Францішка Скарыны горада Маладзечна, калі пачула пра такую перспектыву.

У параўнанні з кастрычнікам 2002 года ацяпленне і падагрэў вады сталі каштаваць амаль у 2 разы больш, ранейшымі засталіся тарыфы аплаты вывазу смецця і карыстання ліфтам. Калі разлічыць аплату камунальных паслугаў для сям'і з трох чалавек, якая жыве ў трохпакаёвай кватэры плошчай 65,1 квадратнага метра, то атрымаецца 87606 рублёў без уліку вады і газу. Летась гэта сума складала 47974 рублі. Цэны на камунальныя паслугі за год выраслі на 82%. А сярэдняя заработная плата, паводле звестак аддзела статыстыкі па горадзе Маладзечна і Маладзечанскім раёне, па гораду за гэты ж перыяд — на 23,8%.

Аднак насельніцтва па–ранейшаму не пакрывае цалкам выдаткі камунальнікаў. Ацяпленне 1 квадратнага метра абыходзіцца УП «Камунальнік» у 1204,33 рубля, жыхары кватэр плацяць 932,12 рубля.

**Святлана ЦІШКО.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 30.10 руб. | 6.11 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2128,00 | 2132,00 |
| Еўра | 2492,85 | 2442,95 |
| Злоты | 534,44 | 533,44 |
| Літ | 722,02 | 707,33 |
| Расійскі рубель | 71,36 | 71,51 |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 2125/2140 | 2130/2155 |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 29.10 | 5.11 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 13280 | 13600 |
| Сасіскі, 1 кг | 4590 | 4600 |
| Селядзец, 1 кг | 2800 | 2750 |
| Рыс, 0,9 кг | 850 | 850 |
| Грэчка, 0,9 кг | 1300 | 1300 |
| Цукар, 1 кг | 1310 | 1310 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1400 | 1350 |
| Алей, 1 л | 2000 | 2000 |
| Маянэз, 200 г | 480 | 450 |
| Кава «Пеле», 100 г | 2400 | 2200 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 850 | 850 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 850 | 850 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 750 | 800 |
| Капуста, 1 кг | 150 | 150 |
| Морква, 1 кг | 200 | 220 |
| Лімоны, 1 кг | 2300 | 2400 |
| Апельсіны, 1 кг | 1950 | 2000 |
| Памідоры, 1 кг | 1500 | 1590 |
| Кавуны, 1 кг | 500 | 400 |
| Яблыкі, 1 кг | 1000 | 1100 |

**Сялянскія прадукты**

| | | |
|---|---|---|
| Малако, 1,5 л | 750 | 800 |
| Смятана, 1 л | 2200 | 2200 |
| Масла, 1 кг | 5000 | 5000 |
| Тварог, 1 кг | 1800 | 2000 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1300 | 1400 |
| Бульба, 1 вядро | 2000 | 2000 |
| Яблыкі, 1 кг | 1000 | 1000 |

## Тарыфы на аплату камунальных паслугаў для насельніцтва Мінскай вобласці

| | |
|---|---|
| тэхнічнае абслугоўванне, м.кв | 74,25 руб. |
| ацяпленне, м.кв | 932,12 руб. |
| гарачая вада, 1чал | 4550,68 руб. |
| халодная вада, 1 чал | 997,18 руб. |
| каналізацыя, 1 чал | 778,27 руб. |
| ліфт, 1 чал | 821,13 руб. |
| вываз смецця, 1 чал | 216,49 руб. |

**БАРЫС КІТ**
**Запіс Васіля БЫКАВА**

# Цярновы шлях

**"Рэгіянальная газета" працягвае друкаваць успаміны аднаго з самых вядомых беларусаў XX стагоддзя Барыса Кіта, запісаныя Васілём Быкавым улетку 2001 года ў Франкфурце-на-Майне. Поўны іх тэкст шукайце на сайце газеты па адрасе regionnews.promedia.by.**

Ну прыйшлі ў Лебедзева, дзе я доўгі час сядзеў на печы, хаваўся. Тады я дачуўся, што немцы, заняўшы Баранавічы, расстрэльвалі нашых школьных інспэктароў. Трохі працаваў у народнай школе ў Лебедзеве. А пазьней пачалося будаўніцтва беларускага школьніцтва. Беларускі актыў пачаў наракаць, што я сяджу, нічога не раблю. **Ксёндз Гадлеўскі**, які тады быў галоўным школьным інспэктарам усяе Беларусі (пазьней ён быў расстраляны немцамі), дык паводле чуткі, казаў: што гэты Кіт сядзіць там на печы, ужо пара яму вылазіць адтуль. Ну дык я вылшаў і паехаў у Маладэчна, дамовіўся са школьным інспэктарам. Далейшыя мае падзеі ўжо вядомыя, бо былі апісаныя...

Во тады я вырашыў заснаваць у Маладэчне беларускую настаўніцкую сэмінарыю. Дарэчы сказаць, што ўсе тыя школы, дзе я калісь працаваў ці арганізоўваў іх, былі чыста беларускія. Мяне зацікавіла маладэчанская традыцыя, бо там яшчэ за царскім часам існавала настаўніцкая сэмінарыя, што было важна. Беларусы таму спрыялі, асабліва школьны інспэктар Маладэчанскага раёна спадар **Яворскі**, які дагэтуль жыве, сядзіць у Сібіры, куды ён быў сасланы пасьля вайны. Ён быў надзвычай цудоўны беларускі патрыёт і пачаў са мною беларускае школьніцтва на Маладэчне. Каб атрымаць дазвол, нам даводзілася езьдзіць у Менск, у школьны аддзел генеральнага камісарыяту, там быў немецкі начальнік Сівіца, а ягоны заступнік беларус доктар **Яхім Скурат**. Скурат быў мой калега па Віленскаму ўнівэрсітэту, я з ім дружыў, і ён памагаў мне. Мы ўгаварылі немца Сівіцу даць нам дазвол адчыніць беларускую настаўніцкую сэмінарыю. Але гэта толькі дазвол. З гэтым дазволам мы ўсьцешаныя, прыехалі ў Маладэчна, і я разгарнуў усю справу. На працягу некалькіх дзён запісалася 300 чалавек моладзі. Але хутка ўсё зьнікла.

Мы ня ведалі, што, апроч Менску, трэба яшчэ атрымаць дазвол ад нямецкага гебітскамісара **Шмідта** ў Вялейцы. Як ён даведаўся, што я без ягонага дазволу адчыніў сэмінарыю, дык так залаваў і на сваёй машыне прыехаў у Маладэчна. Найперш зачыніў друкарню, дзе друкаваліся афішкі, і шукаў мяне, каб арыштаваць. Ну я абвесьціў, што сэмінарыя зачыняецца. Тады я паехаў у Менск да спадара Скурата і таго ж Сівіца, дык яны кажуць: ну што ж рабіць? Мы цябе пашлем у другое мейсца. І паслалі мяне ў Паставы таксама дырэктарам беларускай настаўніцкай сэмінарыі, якая ўжо была адчыненая. Яе адчыніў школьны інспэктар і мой калега **Пятро Шчасны**. Там на мяне гневаліся, бо я парушыў нямецкі закон, каб не прымаць у беларускую школу дзяцей іншых нацыянальнасьцяў, напрыклад палякаў. Я паціху прымаў іх, бо мне было іх шкада.

Аднойчы, як я ехаў да свае хаты у Лебедзеве, мяне арыштавалі і пасадзілі ў турму. 30 дзён я сядзеў у Глыбокім. Мяне абвінавачвалі, што я нібыта маю сувязь з партызанамі, што я англа-амэрыканскі шпіён і г.д. Умовы ў турме былі страшэнныя - у склепе, сьцюжы, стаяла адна печка, якая заўсёды капціла, я накрываўся кажухом, каб захаваць вочы. Завяліся вошы. Кожную ноч чакаў сьмерці. Нас было там чалавек 30, дык кожную ноч расстрэльвалі чалавек 25.

На той час ужо працавала Беларуская цэнтральная рада ў Менску, і там даведаліся, што я сяджу ў Глыбокім. Яны баранілі сваіх людзей. А ў Глыбокім быў прадстаўнік БЦР **Нікандра Мядзейка**. Ён дамогся, каб мяне перавялі ў галоўную цэнтралю СД у Вялейцы. Цягніком мяне, скутага, прывезьлі ў Вялейку. Пачалося новае зьняволеньне. Кінулі мяне ў камару, бачу, уся падлога занятая людзкімі целамі, няма куды ступіць. Нехта падняўся, пытаецца: А ты вошы нам прывёз ці не? Такое было вітаньне. Ну я перанача̀ваў, пачалося турэмнае жыцьцё. Кожнага дня выпушчалі нас пагуляць на двор. У дзьвярох стаяў вартавы, але не немец, а паляк, паскудны такі чалавек. Па прозьвішчы **Генрых Сянкевіч**. Пазьней усіх іх паарыштавалі ці ў Польшчы, ці ў Амэрыцы. За 30 дзён у мяне вырасла чорная барада, дык гэты Сянкевіч падумаў, што я жыд. Ён адмыслова нада мной зьдзекваўся. Як я праходзіў праз дзьверы, дык ён мяне біў палкай гумовай па галаве, я ледзьве не падаў. Неяк раз нас павялі ў лазьню, і ён пабег за мной паглядзець, ці я жыд? Упэўніўся — не.

Так здарылася, што ў немца Шмідта, гебітскамісара Вялейкі, які забараніў мне школу, быў беларускі дарадчык з Віленскім гебітскамісарыяце **Кастусь Касяк**, мой былы вучань з Віленскай беларускай гімназіі. Ён мяне і ўратаваў. Гэта быў дужа таленавіты вучань.

Пражыў ён усяго каля 30 гадоў. Пра ягоную сьмерць ёсьць дзьве вэрсіі. Адна — што яго павесілі ў Вялейцы пасьля прыходу чырвонай арміі. А другая версыя была іншая, яна выкладзена ў кнізе **Юзафа Мацкевіча**, знакамітага польскага пісьменьніка, які апісаў ганебную дзейнасьць АК на беларускіх землях, вынішчэньне беларускай эліты праз нямецкія рукі. Кніга называлася «Не магу маўчаць», гэта быў вельмі пляхотны крок з боку польскага пісьменьніка. Ён напісаў, што Кастусь Касяк загінуў у Валожыне, куды ён перад канцом быў пераведзены начальнікам раёну, а там на яго данесла нямецкім АК, і ён быў расстраляны.

**Працяг будзе.**

■ **АДУКАЦЫЯ**

## «Хачу ў сад!»

**СМАРГОНЬ. Такімі словамі пачынаецца раніца ў тых сем'ях, чые дзеці выхоўваюцца ў цэнтры дашкольнага развіцця дзіцяці.**

У сучасны дзіцячы сад едуць з усёй Смаргоні. Перш за ўсё таму, што ў цэнтры дашкольнага развіцця дзіцяці прапануюць тое, што хочуць юныя наведвальнікі і іх бацькі. Тут выкладаюць і харэаграфію, і англійскую мову, вучаць спасцігаць асновы камп'ютэра. Усё гэта, канешне, за грошы, але цэны тут памяркоўныя. Па словах начальніка Упраўлення адукацыі райвыканкама Валерыя Бацько, летась выручылі 12 мільёнаў рублёў. Усе яны пайшлі на далейшае развіццё адукацыі ў цэнтры. В.Бацько гаворыць, што сучасным дзецям неабходны дадатковыя веды.

У цэнтры займаюцца хлопчыкі і дзяўчынкі ад 1,5 да 6 год. Педагогі распрацоўваюць аўтарскія праграмы для дашкалятаў.

**Ірына РАБУШКА.**

■ **КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА**

## З нажом у руках

**МАЛАДЗЕЧНА. Напачатку мінулага тыдня ў Чысці 19-гадовая дачка ўдарыла нажом ў шыю 42-гадовую маці.**

Яны абедзве былі п'яныя. Здарэнне адбылося ўдзень у адным з інтэрнацкіх пакояў. У міліцыі жыллё жанчын ведаюць як прытон.

## Залезлі ў магазін

**МАЛАДЗЕЧНА. Уноч на 30 кастрычніка нехта залез у вясковы магазін, што ў Сычавічах.**

Тут прадаюць тавары паўсядзённага попыту. Цяпер супрацоўнікі міліцыі высвятляюць, што выкралі ў магазіне.

## Напэўна, змерз...

**МАЛАДЗЕЧНА. Не паспеў выпасці снег, як узрос попыт на цёплы абутак і «саграваньныя» напоі.**

28 кастрычніка ў вёсцы Асавец у адзін з дамоў залез злодзей. Ён разбіў шкло, пасля чаго выкраў зімовыя жаночыя боты і 3 бутэлькі гарэлкі. Злодзея шукаюць. Узбуджана крымінальная справа.

## Былыя муж і жонка

**МАЛАДЗЕЧНА. Паўтара года муж біў былую жонку і ўстройваў ёй скандалы, хаця і жывуць яны асобна.**

Экс-мужу гэта не замінала хадзіць да яе «ў госці» і «сустракаць» на вуліцы. Не вытрымаўшы здзекаў, жанчына звярнулася ў міліцыю. 30 кастрычніка ўзбудзілі крымінальную справу.

## Укралі грошы

**МАЛАДЗЕЧНА. 1 лістапада ў 4 гадзіны дня мужчына пабіў пенсіянера і адабраў у яго 10 тысяч рублёў.**

Злодзеем аказаўся раней судзімы. Ён быў п'яны. Здарэнне адбылося на вуліцы Касманаўтаў каля магазіна «Магістраль».

**По зводцы гаррайаддзела ўнутраных спраў матэрыял да друку падрыхтавала Ірына РАБУШКА.**

■ **СПРАВЫ ШКОЛЬНЫЯ**

## Вынікі навучальнага года

| | Колькасць выпускнікоў | З іх медалістаў | Паступіла ў ВНУ | Паступіла ў ССНУ |
|---|---|---|---|---|
| Смаргонскі | 619 | 5,8% | 39% | 30,8% |
| Вілейскі | 478 | 8,1% | 37% | 28,6% |
| Ашмянскі | 313 | 12,4% | 34,8% | 46,3% |
| Маладзечна | 661 | 4,7% | 55% | 26% |
| Астравецкі | 318 | 13,8% | 35,5% | 35,5% |
| Валожынскі | 366 | 10,3% | 29,2% | 33,6% |
| Мядзелскі | 324 | 6,8% | 35,8% | 26,5% |
| Маладзечанскі | 311 | 4,5% | 37,6% | 24,4% |

Вынікі навучальнага года падводзяцца ў кастрычніку. У першую дэкаду месяца ўсе аддзелы адукацыі ўжо маюць поўныя звесткі аб сваіх выпускніках, могуць параўноўваць з вынікамі мінулага года, з вынікамі суседніх раёнаў і ціха ганарыцца, калі ёсць чым.

Найбольш турбуе лёс былых 11-класнікаў: калі выпускнікі 9-х класаў, "заваліўшы" ўступныя экзамены, могуць вярнуцца ў школу, то выпускнікі сярэдняй школы мусяць пра сябе клапаціцца самі.

У 2003 годзе найбольшую колькасць залатых і сярэбраных медалёў атрымалі школьнікі Астравецкага раёна – 13,8% супраць 4,5% Маладзечанскага раёна. У Маладзечне медалямі ўзнагароджана ўсяго 4,7% выпускнікоў, затое ў вышэйшыя навучальныя ўстановы (ВНУ) паступілі 55%, а ў сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы (ССНУ) – 26% ад агульнай колькасці 11-класнікаў. Маладзечанцы відавочна аддаюць перавагу вышэйшай адукацыі: студэнтамі ВНУ стала ў два разы больш чалавек, чым навучэнцамі ССНУ.

Амаль у кожным раёне ёсць медалісты (звычайна гэта дзяўчаты), якія з-за цяжкага фінансавага становішча пайшлі вучыцца ў тэхнікум. Але пераважная большасць іх стала студэнтамі універсітэтаў.

**Святлана ЦІШКО**

■ **ЗНАЁМЦЕСЯ – КІЯСКЁР**

## «Як там кіёск без мяне?»

**ВІЛЕЙКА. У кіёску каля царквы гаспадарыць Таіса Дзяруга. Сапраўды, гаспадарыць. «Мне падабаецца, что я працую з людзьмі, але ў кіёску адна. Сама сабе гаспадыня, ведаю, што дзе палажыла», — гаворыць яна.**



**Таіса Дзяруга працуе ў Вілейскім газетным кіёску, што размешчаны каля царквы.** Фота Святланы ЦІШКО.

У Вілейку з вёскі Івонцавічы Вілейскага раёна яе прывёз муж. Да горада, новых людзей Таіса Ігнатаўна хутка прывыкла: «Людзі тут нядрэнныя. Калі памыляюся, даю дзве газеты замест адной, вяртаюць. Калі мянялі грошы, таксама аддавалі назад «пяцісоткі», якія вельмі падобныя на 20 рублёў».

Да «Белсаюздруку» працавала на «Зеніце» старшым кладаўшчыком. І вельмі цікавілася працай у гандлі. Хацела пайсці ў кіёск, але баялася, што многа дробнага тавару, ды і страшна мяняць штосьці ў жыцці. Усё ж неяк рашылася. Кіяскёрам працуе ўжо 7 гадоў. Спачатку перажывала, шкадавала, а пасля спадабалася. У Вілейку аднойчы прыязджала дырэктар «Белсаюздруку», спытала у Таісы Дзяругі: «Не шкадуеце, што перайшлі ў газетны шапік?» Яна адказала: «Я ўсё жыццё марыла аб гэтым. Дзякуй Богу, што хоць да пенсіі да мяне прыйшла работа, што мне па душы».

«Калі я не працую, то не адчуваю ў сабе ніякага жыцця», — сказаў Жуль Верн. Таіса Ігнатаўна Дзяруга гаворыць: «Я чэрпаю энергію на рабоце. Нават у адпачынку ці на бульбе перажываю, як там кіёск без мяне».

**Святлана ЦІШКО.**

■ **АБСЛУГОЎВАННЕ**

## Не верце вачам сваім

МАЛАДЗЕЧНА. Канверт быў светла-жоўты, а на ім – матылькі. Прыгажосць невыказальная! А яшчэ былі канверты з буйнымі кветкамі, з марскімі зоркамі. Я стаяла ў паштовым аддзяленні №6 Маладзечна, глядзела на стэнд з прадукцыяй "Белпошты" і разважала: "Куплю два канверты і маркі да кожнага. Матылькоў абавязкова. Мора сімпатычнае, але цемнаватае. Ці будзе відаць на ім адрас? А ружы пашлаватыя. Што ж выбраць?". Рашэнне нарэшце выспела.

– Канверты за 200 рублёў, з матылькамі і морам, – прашу касірку.

– У мяне такіх няма, – адказвае яна.

– А вунь там яны выстаўлены.

– Гэта вітрына, – такі быў канчатковы адказ.

Аказалася, што ні ў адным з акенцаў паштовага аддзялення такіх канвертаў няма. Мусіць, яны проста ўпрыгожваюць памяшканне. І толькі самыя наіўныя пакупнікі вераць, што на вітрыну выстаўляюць той тавар, які ёсць у продажы.

**Аркадзія ЦІШУК.**

# Вілейскія карані Паўла Сухога



Павел Сухі. Фота з архіва «РГ».

## Павел Сухі

**Імя славутага савецкага авіяканструктара Паўла Сухога вядома ва ўсім свеце. Ужо ў далекіх 30-х гадах мінулага стагоддзя ў яго брыгадзе з канструктарскага бюро (КБ) А.М.Тупалева быў створаны самалёт АНТ-25, які яшчэ называўся РД "Рэкорд дальнасці". На ім у 1936 і 1937 гадах вядомыя летчыкі В.Чкалаў, Г.Байдукоў і А.Белякоў здзейснілі рэкордныя палёты з Масквы ў Петрапаўлаўск-Камчацкі і ў Портленд (ЗША) праз Паўночны полюс. Улічваючы вялікую ў гэтым заслугу Сухога, Паўлу Восіпавічу даручылі арганізаваць і ўзначаліць новае КБ. Вынікам яго прадукцыйнай працы стала паступленне на ўзбраенне Ваенна-Паветраных Сіл Чырвонай Арміі напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны новага самалета СУ-2, які ўвасобіў у сабе якасці бліжняга бамбардзіроўшчыка, штурмавіка і разведчыка.**

У пасляваенны час генеральны канструктар працуе над стварэннем сучасных баявых машын, якія патрабуюць новых рашэнняў у практыцы канструявання. З'явіліся яго першыя рэактыўныя самалёты, адметнай асаблівасцю якіх была хуткасць. На іх быў пастаўлены шэраг сусветных рэкордаў. Так у 1959 годзе на самалёце Т-438 лётчык У.С.Ільюшын паставіў сусветны рэкорд вышыні – 28852 метры. А праз год на самалёце Т- 405 быў устаноўлены абсалютны сусветны рэкорд хуткасці палёту на стокіламетровым замкнутым маршруце, роўным 2012 км/гадз. А неўзабаве новы знішчальнік-перахватчык Т-37 ужо мог развіць хуткасць палёту да 3000 км у гадзіну.

У пачатку 70-х гадоў у КБ Сухога быў зроблены самалёт XXI стагоддзя. Унікальная машына Т-4 "Сотка" вагой 100 тон развівала хуткасць 3200 км/гадз. і не мела аналагаў у свеце. За ёй не маглі ўгнацца нават знішчальнікі.На жаль, закулісныя гульні і інтрыгі не дазволілі наладзіць вытворчасць гэтай машыны.

За сваё жыццё канструктар-наватар стаў аўтарам 50 арыгінальных самалётаў, больш за 30 з якіх былі выраблены і выпрабаваны. Кожную сваю мадэль Сухі надзяляў нечым, здавалася, недасягальным, зусім новым, не традыцыйным для тагачаснай авіяцыі.

**Анатоль РОГАЧ.**

**Сёння можна адназначна сцвярджаць: бацькі сусветна вядомага стваральніка самалётаў-знішчальнікаў сямейства СУ Паўла Сухога паходзяць з Вілейшчыны. Вядомыя і дакладныя месцы іх нараджэння - Вязынь і Ручыца.**

Пра тое, што карані Паўла Восіпавіча па бацькавай лініі паходзяць з Вілейшчыны, было вядома і раней. Але тое, што хроснай маці хлопчыка была Наталля Гісіч са старыннага пасялення на Вілейшчыне Ганугы, прывяло для новых пошукаў і знаходак.

## Дзяды, бацькі

Дзед авіяканструктара **Андрэй Аляксеевіч Сухі** родам з вёскі Пахомава (цяпер не існуе. Перанесена ў сувязі з затапленнем Вілейскім вадасховішчам). Быў прыгонным памешчыка **Іпаліта Гіцэвіча** з Вязынскага маёнтка, які накіраваў здольнага юнака вучыцца на два гады ў школу пчалаводства, якая знаходзілася ў Канатопскім павеце Чарнігаўскай губерні. У выдадзеным пасведчанні аб яго заканчэнні гаварылася, што Андрэй Сухі вучыўся на выдатна і добра, на апошнім годзе ўпраўляў асобым аддзяленнем пчол, што складалася з 300 калодаў. Выпускной працай А.Сухога была распрацоўка ўстройства пасекі пры школе пчалаводства. Закончыўшы ў 1837 годзе навучанне, дзед П.Сухога атрымаў ад памешчыка батрацкі надзел у дзве дзесяціны (2.19 га) і пчальнік пад сваё назіранне і пасяліўся на ўскрайку Вязыні.

У створанай пазней сям'і ў Андрэя Аляксевіча і **Кацярыны Максімаўны** Сухіх падрасталі два сыны: **Мікалай** і **Восіп**. Апошні нарадзіўся 23 снежня 1867 года. У той час вясковыя дзеці, калі была такая магчымасць, вучыліся толькі зімой, а вясной, улетку і восенню дапамагалі бацькам у нялёгкай долі хлебароба. Хлопцам звычайна даводзілася з маленства пасвіць кароў і іншую свойскую жывёлу. Пасля заканчэння ў 1882 годзе Вязынскага народнага вучылішча Восіп паступае ў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю. Родныя ўспаміналі, што, заўважыўшы асаблівыя здольнасці хлопчыка да навукі, вяскоўцы сабралі грошы і адправілі яго вучыцца.

25 чэрвеня 1887 года Восіп Сухі атрымаў пасведчанне аб заканчэнні гэтай навучальнай установы і быў накіраваны на працу настаўнікам ў Ганугкае народнае вучылішча. Там ён і сустрэў сваю будучаю жонку **Лізавету Гісіч**, якая нарадзілася ў 1872 годзе ў сялянскай сям'і. Па выспавядальных кнігах Ганугкай царквы ўдалося ўстанавіць, што ў сям'і **Якава Ігнатавіча** і **Крысціны Аляксееўны Гісічаў**, абое 1840 года нараджэння і пражываюць у вёсцы Ручыца Вілейскага павета (маёнтак Ганута быў на паўночным ускрайку Ручыцы), было пяцёра дзяцей – **Ганна, Канстанцін, Міхаіл, Лізавета** і **Наталля**. Як пазней высветлілася, будучая хросная



Бацька Паўла Сухога Восіп і маці Лізавета нарадзіліся на тэрыторыі сучаснага Вілейскага раёна. Фота з архіва Анатоля Рогача.

маці Паўла Сухога. Маці іх памерла ў 1901 годзе, а ў 1905 годзе ў Ручыцы яшчэ жыў бацька і два браты са сваімі сем'ямі.

Лізавета Гісіч пасля заканчэння школы пісьменнасці (у 1891 годзе ў Ганупе была адчынена і царкоўна–прыходская жаночая школа для 70 дзяўчынак) з 1885 па 1888 год вучылася ў мясцовым народным вучылішчы. У атрыманым пасля яго заканчэння пасведчанні значацца толькі выдатныя і добрыя адзнакі.

## Сям'я настаўнікаў

Восіп Андрэевіч працаваў у Ганупе два гады. Пажаніўшыся, маладая сям'я ў 1889 годзе пераязджае спачатку ў Чаравічы, а з 1892 года – у мястэчка Глыбокае. Праз 5 год Сухія перабіраюцца бліжэй да Ганугы – у Дубатоўку. (Адлегласць паміж гэтымі мястэчкамі складае каля 20 км. Цяпер Дубатоўка – звычайная вёска ў Смаргонскім раёне). Тут у 1898 годзе нарадзілася дачка **Аляксандра**, хроснымі бацькамі якой былі настаўнік Войстамскага народнага вучылішча **А.С.Галубовіч і Е.А.Мацыеўская.**

Усяго ў сям'і Сухіх было 5 дзяцей – Павел і чатыры дзяўчынкі.

У народных вучылішчах Віленскай губерні В.А.Сухі працаваў з 5 верасня 1887 года па 1899 год. За праводзімую тут актыўную работу з вучнямі муж і жонка Сухія атрымалі



У царкве вёскі Ручыца на Вілейшчыне (маёнтак Ганута) была ахрышчаная маці Паўла Сухога Лізавета Гісіч. Фота Аляксандра САЛАГУБА.

пісьмовыя падзякі. Ён – за работу з хлопчыкамі, арганізацыю хору. Сам Восіп Андрэевіч добра спяваў, іграў на скрыпцы, а Лізавета Якаўлеўна – за арганізацыю і выкладанне ў гуртку рукадзелля.

15 жніўня 1899 года В.А.Сухі атрымаў дазвол на пераход настаўнікам у Гомельскае чыгуначнае вучылішча, дзе адпрацаваў каля 30 гадоў. У 1921 годзе ён за выдатную і шматгадовую працу ў галіне народнай асветы 1 Мая быў узнагароджаны Гомельскім губернскім Саветам Расійскай Сацыялістычнай Федэратыўнай Савецкай Рэспублікі граматай "Герой Працы", дзе ў прыватнасці гаварылася: *"Этот лист вручает тебе Гомельский пролетариат в ознаменование твоей героической борьбы на фронте труда. Трудящиеся массы будут учиться труду у тебя, старый закаленный боец!*

*Кипучий и неустанный труд приведет нас в царство коммунизма – где не будет нужды и нищеты, где не будет голодных и раздетых – в царство счастья и довольствия для всех.*

*Слава Герою Труда!"*

Памёр Восіп Андрэевіч 13 лютага 1932 года і пахаваны ў Гомелі. Па ўспамінах пляменніцы П.В.Сухога **Фандзеевай В.В.**, сям'я Сухіх сябравала з **Якубам Коласам**, які некаторы час таксама працаваў народным настаўнікам. Да вайны ў іх зберагаўся адзін з першых зборнікаў вершаў паэта з дароўным надпісам: " Шаноўнай Лізавеце Якаўлеўне ад аўтара. Якуб Колас."

## Пачатак шляху Паўла

**Павел Сухі** ў 1905 годзе паступае вучыцца ў Гомельскую гімназію, якую закончыў у 1914 годзе з сярэбраным медалём. Тады ж едзе ў Маскву, дзе паступае спачатку ў МДУ, а затым пераходзіць на вучобу ў МВТУ. З 1916 па 1918 год служыць у арміі, удзельнік першай сусветнай вайны. Некаторы час выкладае матэматыку ў г.Лунінец Брэсцкай вобласці, пасля пераязджае ў Гомель і выкладае той жа прадмет у чыгуначнай школе. У 1920 годзе Сухі выязджае ў Маскву, працягвае вучобу ў МВТУ. Праз 5 год абараніў дыпломны праект, які рыхтаваў пад кіраўніцтвам А.М.Тупалева і пачынае працу інжынерам-канструктарам у канструктарскім аддзеле, дзе вырас да галоўнага канструктара і дырэктара вопытнага завода.

## Мікола Сухі, ён жа Мокры

У вялікай сям'і брата Восіпа Сухога **Мікалая** ў 1892 годзе нарадзіўся сын, якога ў гонар дзеда назвалі **Андрэем**. Калі вучыўся ў Гора-Горацкім аграномічна-каморнічным вучылішчы, арганізаваў там беларускі літаратурны гурток. Яго члены распаўсюджвалі адну з першых беларускіх газет **"Нашу Ніву"**, беларускія календары, самі пісалі туды свае вершы, пасылалі актуальныя карэспандэнцыі і іншыя матэрыялы. Андрэй Сухі падпісваў свае творы псеўданімам **"Мікола Мокры"**. Тут пазнаёміўся і пасябраваў з братамі **Гарэцкімі: Максімам**, які стаў відным беларускім пісьменнікам і грамадскім дзеячам, і **Гаўрылам** – будучым вучоным з сусветным імем.

Некаторыя творы беларускіх паэтаў, што вельмі палюбіліся, у тым ліку і Якуба Коласа, Сухі перапісваў у рукапісны зборнічак і прывозіў на Вілейшчыну, дзе распаўсюджваў свабодалюбівыя рэвалюцыйныя радкі сярод мясцовай моладзі. Адзін з самых папулярных вершаў класіка беларускай літаратуры ў першай рэдакцыі пад загалоўкам " Нашым ворагам" друкаваўся ўпершыню ў Віленскім выданні "Гісторыі беларускай літаратуры" 1920 года з пазнакай " Па спіску агранома-каморніка з Вілейшчыны Андрэя Сухога".

Працяглы час працаваў у Вілейцы пры польскім часе каморнікам, загадваў зямельным аддзелам аблвыканкама і райвыканкама. У сям'і вырасла пяцёра дзяцей. Сярэдні сын, **Мікалай**, працаваў старшынёй Мінскага аблвыканкама, Герой Сацыялістычнай Працы.

Па ўспамінах дачкі **Таццяны Ліопы** (у дзявоцтве Сухой), у дзень, калі па радыё аб'явілі, што самалёт авіяканструктара Сухога зрабіў вымушаную пасадку пад Варшавай, то на кватэры Сухіх у Вілейцы адразу з'явіліся прадстаўнікі польскай дэфензівы (палітычнай паліцыі) з уважлівай праверкай дакументаў, стараючыся ўстанавіць магчымую сваяцкую сувязь людзей з аднолькавымі прозвішчамі. Але ўсё абышлося добра.

**Анатоль РОГАЧ,**
**Вілейка.**

■ АЎТАЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

# ВАЗ-2110 - расійскі «Мэрс»

**У гісторыі АўтаВАЗа "дзесятка" займае асаблівае месца. Яе нараджэнне можна назваць эпахальным – праект ВАЗ–2110 стварaўся на стыку сацыялізму, які разваліўся, і капіталізму, якога яшчэ не было. Фінансавы дэфіцыт і неразвітасць рынкавых стасункаў маглі загубіць у той час не адзін праект.**

АўтаВАЗ жа меў досвед работы ва ўмовах рынкавай эканомікі за кошт экспартных аперацый у савецкія часы, таму "дзесятку" завод усё ж паставіў на вытворчасць, хаця і з вялікім спазненнем. З моманту распрацоўкі праекта да пачатку серыйнага выпуску прайшло цэлых дзесяць гадоў, у той час як ва ўсім свеце прынята асвойваць новую мадэль кожныя чатыры–пяць гадоў.

Дзесяць год не прайшлі дарма. Усё новае, што з'яўлялася ў аўтамабілебудаванні, укладвалася ў "дзесятку". Канструкцыя аўтамабіля мянялася тройчы з мэтай адпаведнасці сусветным стандартам. Спачатку ствараемая на базе вузлоў "васьмёркі", ВАЗ 2110 стаў больш развітым аўтамабілем.

**Кароткая характарыстыка.** Год пачатку вытворчасці 1996. ВАЗ–2110 з кузавам "седан" – базавая мадэль сямейства ВАЗ. Тут закладзены новыя арыгінальныя распрацоўкі: ацынкаваны метал для кузава, мацаванне капота на газавых упорах, рэгулюемая рулявая калонка, бартавая сістэма кантролю, імабілізатар, сістэма улоўлівання параў бензіну, вентылюемыя тармазныя дыскі.

**Мадыфікацыі.** З моманту пачатку вытворчасці выпускаліся мадыфікацыі з рухавікамі рабочым аб'ёмам 1,5 л з карбюратарам (ВАЗ–21100) і з рухавікамі з размеркаваным упрыскам паліва: 8–клапанным (ВАЗ–21102) і 16–клапанным (ВАЗ–21103).

ВАЗ–2110 – высокакамфартабельныя аўтамабілі, з устойлівым ходам і ўмяшчальным багажным аддзяленнем. Аснашчаныя сістэмай аўтаматычнага кіравання ацяпляльнікам. Можна камплектаваць кандыцыянерам.



ВАЗ-2110 - першы расійскі аўтамабіль з прэтэнзіямі на якасці іншамаркі. Фота з архіва «РГ».

## Тэхнічныя характарыстыкі ВАЗ-21100

| Мадэль | 21102 | 21103 |
|---|---|---|
| Габарытныя памеры, мм: | | |
| даўжыня | 4265 | 4265 |
| шырыня | 1680 | 1680 |
| вышыня | 1420 | 1420 |
| Колавая база, мм | 2492 | 2492 |
| Каляіна пярэдніх/ задніх колаў, мм | 1400/1370 | 1400/1370 |
| Вядучыя колы | пярэднія | пярэднія |
| Рухавік | 2111 | 2112 |
| Аб'ём рухавіка, куб.см | 1499 | 1499 |
| Максімальная магутнасць, кВт (пры аб/мін.) | 57,2 (5400) | 66,7 (5600) |
| Макс. момант кручэння, Нм (пры аб/мін.) | 115,7(3000) | 127,5(3700) |
| Сістэма сілкавання | разм. ўпрыск | разм. ўпрыск |
| Колькасць перадач у КП | 5 | 5 |
| Перадатачны лік галоўнай перадачы | 3,7 | 3,9 |
| Максімальная хуткасць, км/гадз. | 170 | 185 |
| Час разгону да 100 км/гадз., с | 14 | 12 |
| Расход паліва, л/100 км | | |
| гарадскі рух | 10 | 9,8 |
| загарадны рух | 5,7 | 6,1 |
| змешаны | 7,3 | 7,4 |
| Шыны | 175/70R13 | 175/65R14 |

■ НАВІНЫ

## Канец «дзесятцы»

**АўтаВАЗ спыніць выпуск "дзесятак" у 2006 годзе.**

Аб тым, што АўтаВАЗ у 2006 годзе плануе зняць з вытворчасці мадэлі "дзесятага" сямейства (ВАЗ–2110, ВАЗ–2111 і ВАЗ–2112) паведаміла агенцтва Biz Time. У якасці стратэгічнай лініі змены мадэльнага раду плануецца асваенне аўтамабіляў сямейства "Каліна", якое носіць пакуль умоўную назву "Праект–2170", а таксама асваенне вытворчасці ВАЗ–2116 – аўтамабіляў на новай платформе класа "С" і аўтамабіляў класа "В1".

Выхад на праектную магутнасць вытворчасці (230 тыс. адзінак у год) сямейства "праект–2170" запланаваны на 2007 год. У 2010 годзе АўтаВАЗ таксама плануе вывесці на праектную магутнасць вытворчасць ВАЗ–2116 (220 тыс. адзінак у год), а ў 2012 – аўтамабіляў класа "В1" (150 тыс. у год).

Вытворчасць "класікі" ў АўтаВАЗе будзе працягвацца да 2007 года.

**Аддзел інфармацыі.**

■ ІМЁНЫ



## Уолтэр Крайслер

**Уолтэр Персі Крайслер (Walter P. Chrysler) нарадзіўся 2 красавіка 1875 года і пражыў даволі доўгае жыццё. Ён памёр 18 жніўня 1940 года.**

У даведніках пра яго напісана надзвычай мала – амерыканскі прамысловец, заснавальнік карпарацыі Chrysler. Першапачатковая інфармацыя, нягледзячы на тое, што Крайслер напісаў кнігу "Жыццё амерыканскага рабочага", – вельмі схематычная: 17 год – памочнік машыніста, 24 – майстар–механік на чыгунцы, затым – суперінтэндант, менеджэр на чыгунцы ў Чыкага. Вельмі цікавіўся веласіпедамі і першымі матацыкламі, рамантаваў іх. У 1910 набыў першы аўтамабіль. Ён быў вельмі заінтрыгаваны канструкцыяй аўтамабіля, таму перш чым навучыцца вадзіць спачатку поўнасцю разабраў і сабраў яго.

У 1912 годзе Крайслер перайшоў у кампанію Buick, а ўжо ў 1916 годзе узначаліў яе, заняўшы пасаду прэзідэнта.

Яшчэ праз тры гады Крайслер стаў віцэ–прэзідэнтам канцэрна General Motors, куды ўваходзіла фірма Buick.

У 1920–24 гадах Крайслер заняўся рэарганізацыяй кампаній Willys-Overland і Maxwell Chalmers.

Увесь гэты час Крайслер марыў пра стварэнне ўласнага аўтамабіля, у які ён мог увасобіць увесь багаты досвед і ідэі аб тэхнічнай дасканаласці аўтамабіля і камфорце. Знаёмства з трыма інжынерамі – Фрэдам Зедэрам, Оуэнам Скэлтанам і Карлам Брэерам – дапамагло ў рэалізацыі гэтых планаў. На плошчах кампаніі Chalmers, якая да таго часу абанкруцілася, і быў сабраны першы аўтамабіль. Ім стаў Chrysler 70. Гэты аўтамабіль меў шалёны поспех ў ЗША. У першы ж год іх было прададзена больш за 32 тысячы.

Прадстаўлены ў 1924 годзе аўтамабіль меў гідраўлічныя тармазы на ўсіх чатырох колах, шасціцыліндравы рухавік з высокай па тым часе ступенню сціскання.

У 1926 годзе быў выпушчаны больш камфортны варыянт Chrysler Foyr, а пасля ўжо і Chrysler Imperial Six.

Да 1928 года прыбытак даў магчымасць адкрыць новыя аддзяленні. У 1933 годзе фірма Уолтэра Крайслера была адзінай, чые аб'ёмы продажу перавысілі ўзровень 1929 года. Менавіта ў той год "Крайслер" упершыню пераўзышоў "Форд" па аб'ёмах продажу.

У 1998 годзе фірма аб'ядналася з Даймлер–Бэнц. Так нарадзілася карпарацыя "Даймлер–Крайслер".

**Мікола ГАЙДУК.**

■ АНЕКДОТ

## У горад паехалі

Вязе мужык дзяўчыну з далёкага сяла ў горад, спыняецца каля лесу, выходзіць з машыны, корпаецца ў маторы, а пасля і кажа:

— Ну, усё, рухавік зламаўся, прыйдзецца тут начаваць. Яна:

— Чуеш, дзядзька, давай хуценька пераначуем і далей паедзем, а?

## Тры–чатыры

Вечар. На гадзінніку 11.30. Транспарт ужо не ходзіць. Тры хлопцы і дзве дзяўчыны спыняюць машыну:

— За даляр да ... давязеш?

— Ды што вы, хлопцы!

— А за тры–чатыры?

— Іншая справа!

Калі прыходзіць час расплачвацца, шафёр паварочваецца да кампаніі:

— Ну, і дзе вашыя тры–чатыры?

Адзін з іх:

— Тры–чатыры!

Усе разам:

— Дзя–ку–ем!

■ КОНКУРС

## Выйграй прыз. Конкурс працягваецца

**Яшчэ адзін тур нашага конкурсу, які праводзім з Першай акумулятарнай кампаніяй. Пераможцу сярод тых, хто правільна адкажа на пытанне, вызначыць латарэя. Шчаслівчыка чакае прыз.**



Мінулы раз мы спыталіся, лагатып якой аўтамабільнай маркі прадстаўлены на малюнку? Правільны адказ: Крайслер.

Аб інжынеры і бізнесмэне, заснавальніку фірмы свайго імя амерыканцы Уолтэры Крайслеры чытайце сёння ў калонцы "Імёны".

З заданнем справіліся віляйчане Наташа Герасімовіч, Дзіма Гулецкі, Андрэй Крыловіч, маладзечанцы Алег Варанецкі, П.С.Шэлег, Анатоль Шпілеўскі, Андрэй Глінскі, Уладзімір Будай, Сяргей Глінскі, Міраіда Сярпейка, Іван Станевіч, Соснін Юры, Павел Сярпейка, чысцінец Дзмітры Ракуцька.

Вось што напісала нам адна з пераможцаў мінулых тураў Наташа Герасімовіч з Вілейкі: "Абавязкова чытаем "Аўта-мота" я і мой муж. Удзельнічаем у трэці раз, цікава.

На гэты раз жэрабя шчаслівчыка выпала на маладзечанца **Уладзіміра Будая**. Чакаем яго ў рэдакцыі, каб уручыць прыз: па каністры маторнага і прамывачнага масла. Віншуем!

### Адкажыце на пытанне

**Герой кінакамедыі, страхавы агент Дзетачкін, які валодае абвостраным пачуццём справядлівасці, пастаўю на патоку крадзяжы легкавікоў, якія, па яго звестках, былі набытыя несумленна. Выручаныя грошы ён пераводзіў дзіцячым дамам і лічыў, што дапамагае правасуддзю. Як называецца кінафільм, дзе расказваецца гэтая гісторыя?**

(Выберыце з трох варыянтаў адказу правільны):

**Увага, чарапаха!**

**Сцеражыся аўтамабіля!**

**Трафік.**

Адказы дасылайце, калі ласка, на паштоўках. Тэрмін прыёму адказаў да 28 лістапада. Вынікі чарговага тура будуць апублікаваныя ў наступным выпуску "Аўта–мота", у першым нумары снежня – 5 чысла.

**Мікола ГАЙДУК.**

■ ПОСТ ДАІ

# Калі таксіст перабраў

**МАЛАДЗЕЧНА. Вадзіцель таксі жыхар Радашкавічаў Сяргей Жаўнерчык ехаў за рулём маршруткі па вуліцы Віленскай Маладзечна нецвярозым.**

Гэта толькі адзін выпадак з 11 у першыя два дні лістапада, калі супрацоўнікі ДАІ Маладзечна выйшлі на вуліцы горада. Хроніка аказалася напружанай і трывожнай.

Першага лістапада ў 9.10 нецвярозым за рулём быў затрыманы маладзечанец **Аляксандр Гадун**, які працуе ў прадпрымальніка Вошчанкі, у 19.40 – маладзечанец **Валянцін Сахараў**, які працуе грузчыкам у прадпрымальніка Бутовіча.

У нядзелю ў 5 хвілін першай ночы затрыманы мінчанін, які часова не працуе, **Юры Церашонак**. Праз пяць хвілін – маладзечанец **Аляксандр Палякоўскі**, дахаўшчык мінскага прадпрыемства "Спецбуд", у 7.30 – таксіст **Сяргей Жаўнерчык**, у 15.00 – жыхар вёскі Новы Двор пад Мінскам, які працуе пілярамшчыкам у вёсцы Вугляны, у 17.50 – чысцінец **Юры Верацейка**, станочнік акцыянернага таварыства "ЗабудоваДрэў", у 18.00 – маладзечанец **Ігар Ваўковіч**, які часова не працуе, у 19.20 – трактарыст прадпрыемства "ЗабудоваАгра", жыхар Відзеўшчыны **Уладзімір Францкевіч**, у 20.20 – маладзечанец **Аляксей Рабчанка**, цясляр Маладзечанскай дыстанцыі пуці. І ў 21.50 важкы п'яных вадзіцеляў скончыў беспрацоўны жыхар Маладзечна **Ігар Асташонак**.



Паставыя ДАІ дзяжураць на дарогах круглыя суткі. І круглыя суткі на дарогах можна спаткаць п'янага вадзіцеля. Апошнія дні - не выключэнне. Фота Bymedia.Net/

Круглыя суткі па вуліцах нашых гарадоў і весяў ездзяць п'яныя вадзіцелі. Толькі з пачатку года (на 3 лістапада) у Маладзечне і раёне затрымана 766 нецвярозых вадзіцеляў. З іх 87 – інспектарам ДПС ДАІ **Валерыем Глінскім**. За мінулы год ён затрымаў 105 п'яніц, якія былі за рулём. "Рождённый пить – ездить не может!", – сказаў Валеры Глінскі.

**Уладзімір ЛУКАШЫК.**

■ ТЭХАГЛЯД



Начальнік маладзечанскай дыягнастычнай станцыі даччынага унітарнага прадпрыемства грузавога аўтапарка №2 Вячаслаў Сіліч правярае моц святла фараў аўтамабіля. Фота Ірыны РАБУШКІ.

## Трымаем экзамен

**МАЛАДЗЕЧНА. Амаль кожная чацвертая машына выязджае на дарогі ў аварыйным стане з рознымі няспраўнасцямі.**

Гэтаму сведчаць лічбы, што зафіксаваныя ў дыягнастычнай станцыі даччынага унітарнага прадпрыемства грузавога аўтапарка №2. На станцыі праходзяць тэхнічны агляд грузавыя і легкавыя аўтамабілі, аўтобусы. Яна адкрылася 7 кастрычніка, і за гэты перыяд 37 аўтамабіляў са 127 не прайшлі тэхагляд. Але, па словах начальніка дыягнастычнай станцыі **Вячаслава Сіліча**, на станцыях без сучаснага камп'ютэрнага абсталявання гэтыя машыны пройдуць. На маладзечанскай дыягнастычнай станцыі ўжо ёсць новае абсталяванне нямецкай вытворчасці, якое перадало Міністэрства транспарту і камунікацый Рэспублікі Беларусь. Зразумела, камп'ютэр не падманеш. Ён дакладна ў параўнанні з вачыма і рукамі чалавека вызначыць ступень няспраўнасці тармазоў, моц святла фараў. Правяраюць з дапамогай камп'ютэра і выхлапныя газы на гарачым рухавіку, і дымнасць. Увесь тэхагляд доўжыцца 30 хвілін. Перад ім вадзіцелі хвалююцца, нібы студэнты перад экзаменам. То вакол машыны не адзін раз абыдуць, то ў салоне капошацца.

У два разы тэхнічна больш магутная дыягнастычная станцыя ёсць у Валожыне. Яна адкрылася на месяц раней, чым маладзечанская. Гэтае абсталяванне магло быць у Маладзечне, але з-за малога памяшкання яно не падышло. За канкурэнтаў валожынскую станцыю маладзечанцы не лічаць.

Памыляюцца тыя вадзіцелі, якія думаюць, што іншамарка лепшая за савецкую машыну. Напрыклад, 70% аўтамабіляў, якія прыгналі з Германіі, маюць дрэнныя тармазы. Гэтыя машыны, канешне ж, не пройдуць тэхагляд з першага разу. У адрозненне ад аўтамабіля «Іфа» 1965 года выпуску, калі хто яшчэ памятае, як ён выглядае. Начальнік дыягнастычнай станцыі лічыць, што нічога складанага ў «экзамене» на тэхагляд няма. Галоўнае — быць добрым гаспадаром машыны.

На станцыю прыязджаюць і аўтааматары, якія толькі-толькі купілі аўто на рынку, каб праверыць яго спраўнасць. Вячаслаў Сіліч зазначыў, што лепш гэта рабіць да пакупкі. Некаторыя вадзіцелі на тэхагляд прыходзяць, а не прыязджаюць. І гавораць:

— За тэхагляд заплаціў — дайце дыягнастычную карту, што я яго прайшоў.

А машына тым часам недзе на цаглінах стаіць...

Таму Вячаслаў Сіліч прытрымліваецца прынцыпу: давярай, ды правярай.

**Ірына РАБУШКА.**

■ ЗАПЧАСТКІ

## Аўтамабільная «паліклініка»

**МАЛАДЗЕЧНА. Магазін "Аўтазапчасткі для іншамарак" працуе ў дылерскай сетцы кампаніі "Шатэ-М Аўта". Раней ён размяшчаўся каля гарадскога стадыёна, а цяпер пераехаў да завода "Рамбыттэхніка". Гаспадар магазіна Юрый Церах не навічок у гэтым бізнесе.**

За амаль 4 гады работы з запчасткамі ўжо вызначыў прыярытэтныя накірункі. Найперш – якасць тавару і абслугоўвання. Калі пакупнік не траціць час на бясконцыя рамонты, значыць магазін працуе добра.

Тут прадаецца нятанны тавар, але ён адпавядае еўрапейскім і сусветным стандартам. На дэталь, якой няма на паліцах, можна аформіць заказ. Найбольшы тэрмін яго выканання – тры дні. Пры падборы дэталяў карыстаюцца каталогамі, як электроннымі так і звычайнымі. Найчасцей у магазін прыходзяць уладальнікі Фольксвагенаў, але бываюць заказы і для Ровэраў.

Вадзіцеляў-жанчын паводле назіранняў Юрыя Цераха ў горадзе становіцца больш, але працаваць з імі ўсё цяжэй. Некаторыя вадзіцелькі абсалютна не ведаюць, што ім патрэбна. Прыходзяць у магазін і з паперкі не могуць прачытаць назвы запчастак. Прадавец доўга расшыфроўвае неразборлівы почырк і спрабуе здагадацца, што дарадчыкі маглі назваць такім страшным словам, незафіксаваным ні ў адным з каталогаў. Зрэшты, няведанне свайго аўтамабіля ўласціва не толькі жанчынам, але і мужчынам.

**Святлана ЦІШКО.**

■ ПАРАДЫ МЕХАНІКА

# Зімовыя шыны – як абуемся?

### Устаноўка

Перад мантажом спраўдзіце, ці няма на колах сур'ёзных пашкоджанняў, такіх, як трэшчыны і г.д.

Выдаліце металічныя прадметы, шкло, камяні і іншыя пабочныя часціцы, якія заселі ў шынах. Не забудзьцеся спраўдзіць, ці няма ўнутры шын якіх прадметаў.

Манціруйце на ўсе дыскі шыны аднаго тыпу (з шыпамі або без шыпоў). Не ўстанаўлівайце шыны розных тыпаў, бо пры гэтым пагаршаецца стабільнасць рулявога кіравання.

Пасля ўстаноўкі абкатайце аўтамабіль. Звярніце асаблівую ўвагу на работу рулявога, пакуль не прызвычаіцеся да яго.

Пазбягайце ваджэння па дарогах без снегу і лёду з устаноўленымі шыпаванымі шынамі – беражыце шыны і дарогі.

Заўсёды рабіце балансіроўку колаў для ўсіх аўташын, нават запаскі. Ненармальная вібрацыя дапаможа хуткаму зносу шын.

### Ціск паветра

Пры ваджэнні, калі аўташыны халодныя, перыядычна рэгулюйце ціск ў аўташынах да рэкамендаваных велічыні. Падчас ваджэння ціск у шынах павялічваецца. Ніколі не спускайце паветра з разагрэтых шын.

### Праверка зносу

Шыны са спецыяльным саставам пратэктара «Multicell» маюць дадатковы індыкатар 50%-нага зносу. Эксплуатацыйныя характарыстыкі на абледзянелых і заснежаных дарогах шын з «Multicell» пры зносе пратэктара больш чым на 50% зніжаюцца. Таму пасля эксплуатацыі зімой напалову зношаную шыну з «Multicell» рэкамендуецца замяніць на новую, а зношаная шына можа выкарыстоўвацца як летняя да з'яўлення індыкатара поўнага зносу.



Зімовыя шыны патрабуюць увагі не толькі пры мантажы. Заўсёды прыслухоўвайцеся да іх «песні». Фота Bymedia.Net/

### Бяспека пры ваджэнні

Пры з'яўленні няўстойлівасці рулявога кіравання, ненармальнага гуку або вібрацыі, спыніце аўтамабіль ў бяспечным месцы як мага хутчэй і праверце яго і аўташыны. Нават калі не заўважылі пашкоджанняў, праверце аўтамабіль на сэрвісе.

Не кранайцеся з месца рап-тоўна, пазбягайце рэзкіх паскарэнняў, паваротаў і тармажэння – такія манеўры небяспечныя.

Вадзіце аўтамабіль, звяртаючы асаблівую ўвагу на дарожныя ўмовы, напрыклад, зніжайце хуткасць перад рэзкімі паваротамі.

Не дапускайце кантакту бакавых сценак аўташыны з бардзюрамі, пазбягайце язды па прадметах, што выступаюць з дарогі.

Трымайце адпаведную дыстанцыю паміж вашым і папярэднім аўтамабілем ў залежнасці ад яго хуткасці.

### Агульныя рэкамендацыі

Аўташыны зношваюцца нераўнамерна (вось з кіруемымі коламі, вядучая вось, свабодная вось). Для папярэджання ненармальнай вібрацыі і шуму пратэктара, а таксама для павелічэння яго даўгавечнасці, неабходна перыядычна пераставляць аўташыны з адной пазіцыі на іншую.

Перыядычна правярайце схаджэнне (развал) пярэдніх колаў і, калі гэта неабходна, рабіце рэгуліроўку. Няправільная рэгуліроўка прыводзіць да зносу аўташын.

Пазбягайце перагрузкі, паколькі гэта можа прывесці да пашкоджання, узнікнення трэшчын. Пазбягайце таксама нераўнамернай нагрузкі.

### Бяспека

Звяртайце асаблівую ўвагу на стан дарог, пакрытых снегам і лёдам.

Кратайцеся павольі, каб аўташыны не прабуксоўвалі. Націскайце на педаль тармазу загадзя і эфектыўна карыстайцеся тармажэннем рухавіком, каб пазбягаць рэзкага тармажэння.

Ніколі не націскайце на педаль тормаза за адзін прыём. Націскайце павольі.

Не паварочвайце руль рэзка.

**Алег МАЙБАРАДА.**

**Хуткасць і адлегласць пры абкатцы зімовых шын**

| Тып | Хуткасць | Адлегласць |
|---|---|---|
| Шыпаваныя | менш за 60 км/г | больш за 300 км |
| Без шыпоў | менш за 80 км/г | больш за 100 км |

■ ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ МАЛАДЗЕЧАНЦАЎ

## Што для вас хуткае харчаванне?



**Дзмітрый Бжазоўскі, праграміст:**

— Я люблю есці павольна, таму хуткім харчаваннем не карыстаюся. Лічу, што «хуткія» пункты ўвогуле не патрэбныя. У іх няякасная ежа.



**Святлана Герасіменка, выхавацелька:**

— Для мяне гэта мікрахвалевая печ, паўфабрыкаты і пасудамыйная машына – усё, з дапамогай чаго хутка можна прыгатаваць ежу і пасля прыбраць. Рознымі "забягалаўкамі" не карыстаюся, бо не падабаецца, як гатуюць, да таго ж "хуткая" ежа шкодная. Але яны патрэбныя тым, хто не можа паесці дома.



**Лена Мончык, архівіст:**

— Гэта дрэнна. Стараюся ім не карыстацца. Калі не хапае часу, гатую вермішэль з сасіскай – для мяне гэта і ёсць хуткае харчаванне. "Хуткімі" пунктамі не карыстаюся з-за няякаснай ежы. Лічу іх непатрэбнымі.



**Эдвард Паслед, механік:**

— Хуткасуп, гарбата, кава наспех. Я гэтым карыстаўся, калі быў не жанаты. Тым, хто жыве адзін, і патрэбна хуткае харчаванне. Для мяне цяпер гатуе жонка. Задаволены. Асабліва тым, што ў абед ем суп.



**Іван Стукін, кампрэсаршчык:**

— Калі я не працаваў, таксама карыстаўся хуткім харчаваннем, бо яно для бедных. Акрамя шкоды здароўю і паху нічога ў ім няма. Цяпер я працую і магу дазволіць сабе кілбасу альбо мяса. Гатую сам. Люблю суп з кіслай капустай і фасоллю.

Падрыхтавала Ірына РАБУШКА.

■ ХУТКАЕ ХАРЧАВАННЕ

# Еш, пакуль не запяеш

**Рэчаіснасць імкліва мяняецца. Рытмы нашага жыцця паскараюцца і прымушаюць нас эканоміць час. Звычайна мы эканомім на сабе. Менш спім, амаль не гуляем у парку ці на вуліцы. Ежу ўжо не смакуем, а таропка хапаем. Паесці як мага хутчэй нам дапамагаюць прадпрыемствы хуткага харчавання.**



Хуткае харчаванне мае шмат пераваг перад харчаваннем у рэстаране ці дома. Фота Марыны Сліж.

Сама іх назва ўказвае на тое, што ежа хутка гатуецца, хутка выдаецца і хутка, на хаду або за рабочым сталом, паглынаецца. Нічога новага ў гэтым няма. У XII стагоддзі ў Лондане ўжо былі харчэўні, дзе гарачую ежу падавалі круглыя суткі, а ў Севільі існаваў указ, які забараняў прадаваць піражкі з начынкай, якая заставалася з учарашняга дня.

У гарадах нашага рэгіёну няма рэстаранаў Макдональдс з гамбургерамі і бульбай фры. Затое ёсць піцэрыі, кафетэрыі-буфеты, бары і іншыя закусачныя.

Піцэрыя прапануе не толькі піцу, але і расцягаі (маленькая піца ў форме піражка), чыпсы, піражкі з рознымі начынкамі, пюрэ, прыгатаванае з канцэнтрату, каву, марожанае, піва. Абслугоўваюць дастаткова хутка, калі не "пашчасціць" на вялікую чаргу. Посуд аднаразовы, выдаецца папяровая сурвэтка. Памяшканні прасторныя, разлічаныя на 20-45 чалавек, прамавугольныя пластыкавыя столікі і крэслы. Можна распрануцца. Чаго няма, дык гэта ўмывальніка.

Да прадпрыемстваў хуткага харчавання можна аднесці кафэ, кшталту смаргонскага "Агеньчыка". Памяшканні ў іх цёплыя, асвятленне мяккае, прыглушанае, але няма сваёй кухні. Таму прапануюць пюрэ "Онега" ці "Роллтон", сасіскі, катлеты, каву, гарбату, бутэрброды і смачныя, але дарагія пірожныя.

Буфеты сваіх залаў не маюць. Звычайна працуюць у прадуктовых крамах, на рынках і выставах-кірмашах. Пластыкавыя круглыя столікі на 1-2 чалавек стаяць непадалёк ад стойкі. Тут жа ходзяць наведвальнікі крамы ці выставы. Не вельмі зручна, затое больш танна. У меню – бутэрброды, пірожныя, булачкі, кава, гарбата, каляровыя газіраваныя напоі, марожанае. Радзей бывае сасіска, бульбяное пюрэ, піца.

Зрэшты, каб пад'есці, неабавязкова заходзіць у нейкае памяшканне. У спецыяльных шапіках часта прадаюцца валаваны (слоеныя піражкі з начынкай), бліны і чабурэкі, а да іх – булён, чай ці кава. Можна несці купленае дадому ці на работу, можна спажываць на месцы. Але гэта не эканомна. Народная мудрасць сцвярджае: калі стаіш, ежы ў страўнік змяшчаецца больш. Цана аднаго валавана – 450-800 рублёў, за адзін блін з начынкай трэба аддаць 425-955 рублёў. Плюс кава. А калі арганізм запатрабуе падвоіць-патроіць дозу?

У невялікіх гарадах сёння ўжо, мусіць, няма жанчын са скрынкамі на колцах. За савецкім часам яны стаялі на вакзалах, на рынках і проста на вуліцах. Па просьбе пакупніка адчынялі дзверцы гэтага "чамадана" і відэльцам (у лепшым выпадку) даставалі піражок. Цяпер па маладзечанскім рынку ходзяць жанчыны з іншымі скрынкамі – на тачках. Гэтыя "перасоўныя пункты харчавання" прапануюць тыя ж піражкі, але з кавай ці гарбатай у аднаразовых кубачках.

Што да цаны, то наша хуткае харчаванне не заўсёды таннае, хоць і павінна быць такім. За піцу давядзецца заплаціць не менш 1160 рублёў, а ў буфеце вілейскага Дома быту – 1850-2750 рублёў. Пюрэ – 600 рублёў, расцягай ад 560 да 620 рублёў. Самы танны чай у маладзечанскай піцэрыі каштуе 625 рублёў, у той час як піва можна купіць за 660 рублёў. "Быстросуп", які ў кіёсках ацанілі ў 380 рублёў, у піцэрыі цягне на 670. Значыць, 290 рублёў бяруць за ваду і яе падагрэў. Цэнавую даступнасць вытрымліваюць толькі піражкі (ад 120 рублёў) і газіраваная вада (ад 215 рублёў).

Самы танны варыянт – самім купіць вермішэль "Роллтон" і заліць яе кіпенем. Але гэта падыходзіць толькі офісным работнікам. Астатнія ходзяць есці дадому або бяруць абед з сабой.

Святлана ЦІШКО.

# Хуткае харчаванне па-амерыканску

**Як і многія іншыя студэнты нашай краіны, каб падзарабіць грошай, лета я правяла ў Злучаных Штатах Амерыкі. Працаваць давялося ў розных месцах, адным з якіх быў фаст-фуд – рэстаран хуткага харчавання.**

Памятаю свой першы дзень у Амерыцы, калі, прагаладаўшыся, мы з сябрам зайшлі ў гэты фаст-фуд. Выбралі менавіта яго, таму што там можна нядорага пад'есці. Пасля, калі пайшлі на выхад, то пачулі: "Едзьце асцярожна!". Гэта работнікі рэстарана пажадалі нам добрай дарогі. Мы ўсміхнуліся, бо прыйшлі ж мы пешшу. Амерыканцы нават і падумаць пра такое не маглі – там з 16 гадоў усе на машынах ездзяць.

Пасля, калі я ўжо там працавала сама, словы "drive carefully" (едзьце асцярожна) чула па 100 разоў на дзень. А тады, у першы наш дзень, здалося: гэта мы ім так спадабаліся, што яны нам добрай дарогі пажадалі. Пасля я зразумела, што ветлівасць — адзін з асноўных элементаў палітыкі фаст-фуда, такі самы, як і хуткасць. Што ж тычыцца якасці, то, на жаль, — не. Мабыць, таму тут усё і танна.

Мала таго, што большасць страў вельмі тлустая, зробленая з ненатуральных прадуктаў, да таго ж яшчэ не заўсёды свежых. Калі пакупнікоў няшмат, то мяса можа ляжаць некалькі гадзін перад тым, як яго пакладуць у гамбургер. Адпрацаваўшы ў гэтым рэстаране, пачынаеш разумець, што "фаст-фудам" (хуткае харчаванне) ён называецца не толькі таму, што там хутка абслугоўваюць, але і таму, што есці ўсё гэта трэба як мага хутчэй — інакш сапсуецца. Калі паглядзець унутр сэндвіча праз гадзіну пасля таго, як яго зрабілі... не пужайцеся – мяса там будзе зялёнага колеру. Я не жартую – такога шэра-зялёнага нездаровага колеру. На шчасце, ніхто з амерыканцаў ні разу не здагадаўся зазірнуць у сярэдзіну. Работнікі, звычайна падлеткі, паклаўшы ўнутр сэндвіча што-небудзь не тое, што заказаў пакупнік, не спяшаюцца яго перарабляць. "Ай, – гавораць яны, – ён ніколі гэтага не заўважыць". І сапраўды, звычайна не заўважаюць.

Адпрацаваўшы ў ЗША ў рэстаране хуткага харчавання (фаст-фуд), пачынаеш разумець, што «фаст-фудам» ён называецца не толькі таму, што там хутка абслугоўваюць, але і таму, што есці ўсё гэта трэба як мага хутчэй – інакш сапсуецца.

Для пакупніка робіцца ўсё, што ён пажадае, але толькі калі ён гэта бачыць. Працаўнікі-падлеткі могуць і з падлогі падабраць сэндвіч, што зваліўся, калі пакупнік адвярнуўся. Але калі амерыканцу не спадабаецца яго гамбургер, то яму яго 10 разоў пераробяць, толькі б ён яшчэ раз прыйшоў і жонку з дзецьмі прывёў.

Дарэчы, звычайна ў такія рэстараны ў Амерыцы ходзяць сем'ямі. Спачатку, з непрывычкі, я вельмі здзіўлялася, калі бачыла там малых дзяцей – гадоў 5-10, прычым вага іх была ўжо намнога большая, чым мая (я не худзенькая), ці дзіцяці, якому і годзіка няма, а яму ўжо ў рот "дабл-чызбургер" сунуць.

### Анекдот у тэму

У рэстаране афіцыянт прымае заказ.
— Вам суп на штучным булёне ці на натуральным?
— Як гэта на штучным?
— Гэта з кубіка.
— А натуральны?
— З двух кубікаў.

Зразумела, што асноўнай прычынай таго, што там амаль заўсёды доўгія чэргі, з'яўляецца танная страва — $1,99, $3,99... Для амерыканца – гэта вельмі танна.

У Амерыцы шмат розных сетак фаст-фудаў, невялічкіх кафэ: такіх, як McDonald's, Burger King, Wendy's, Big Boy, і шмат іншых. Можна вельмі многа гаварыць пра фаст-фуд у Амерыцы, асабліва адпрацаваўшы там усё лета. Асноўны ж вывад, які я зрабіла для сябе: фаст-фуд – гэта нізкія цэны і нізкая якасць. Але кожны выбірае для сябе сам. Амерыканцы выбіраюць фаст-фуд. І без яго Амерыка ўжо не была б Амерыкай.

Насця МАНЦЭВІЧ.

■ ФУТБОЛ, ВЫШЭЙШАЯ ЛІГА

# «Вылет» расцягнуўся

**Днепр-Трансмаш (Магілёў) – Маладзечна-2000 2:2 (2:2). 1 лістапада. 400 гледачоў. Суддзя Язевіч. Галы: Пішчур (28, 38); Хамутоўскі (13, 19).**

Склад: Сцепановіч – Ляпета, Крывіцкі, Афанасевіч, Мятліцкі (Ганчароў,52) – Лявончык, Вышынскі, Дараховіч (Якімчук,46), Урублеўскі – Хамутоўскі, Лабанаў.

Ход гульні прадвызначаўся псіхалагічным настроем магіляўчан. Яны двойчы прапусцілі галы, бо не чакалі ад гасцей атакуючай актыўнасці. Абодва Хамутоўскі правёў ударамі галавой. Першы раз пры падачы вуглавога Вышынскім памыліўся галкіпер. Другі раз узяццю варот на дабіванні папярэднічалі пас Лабанава, удар Дараховіча і няўпэўнены сэйв галкіпера.

Маладзечанцы не справіліся з пераменай у дзеяннях гаспадароў. Іх форвард тараннага тыпу Пішчур ужо да перапынку паспеў аднавіць лік, леглі за нашых абаронцаў разбіраючыся ля варот Сцепановіча. У другім тайме перавагай валодаў "Днепр-Трансмаш", таму госці сканцэнтраваліся на захаванні нічыйнага ліку. Гэта пакінула тэарэтычны шанц на "выжыванне", падарыўшы маладзечанскім балельшчыкам цікавасць да матча з брэстаўчанамі.

**Маладзечна-2000 – Дынама (Б) 1:2 (0:1). 5 лістапада. 700 гледачоў. Суддзя Вялічка. Галы: Лявончык (86); Рапецкі (10, 90).**

Склад: 1.Жылкін – 2.Ганчароў (18.Лабанаў,17), 4.Крывіцкі, 3.Дрозд – 6.Лявончык, 8.Альховік, 10.Вышынскі, 5.Якімчук, 9.Дараховіч, 11.Урублеўскі (14.Касцюк,42) – 7.Хамутоўскі.

Госці таксама знаходзіліся ў небяспечнай зоне, таму гэта сустрэча была для іх ледзь ці не самай важнай на фінішным адрэзку. Хто з сапернікаў чаго дастойны, стала зразумелым у стартавыя хвіліны. Дынамаўцы захапілі ініцыятыву і забілі гол. "Дыяганаль" справа не перарвалі нашы абаронцы, і Рапецкі, якога помнім па выступленні ў "Маладзечна-2000" у сезоне-2002, рэалізаваў выхад сам-насам з Жылкіным.

Маладзечанцы не стваралі рэальных пагроз ажно да заключнай пяцiхвілінкі. Дзеянні каманды ўскладняліся праблемамі са складам, мноствам ці то траўміраваных, ці то проста адмовіўшыхся завяршаць чэмпіянат гульцоў. Дынамаўцы часам атакавалі небяспечна. Напрыклад, у першым тайме Жылкін з цяжкасцю парыраваў удар са штрафнога, а ў другім тайме прыезджы нападаючы прыгожым ударам у падзенні праз сябе трапіў у штангу. Увогуле лік удараў па варотах ажно 5:24 на карысць гасцей.



Аляксандр Альховік змагаецца за мяч. Фота Святланы ЦІШКО.

Канцоўка запомнілася. Лявончык зраўняў лік, першым паспеўшы на нізавы прастрэл са штрафнога злева. На жаль, гэта быў усяго толькі эпізод. Зладжанай гульні маладзечанцы не мелі ні ў гэтыя заключныя хвіліны, ні на працягу ўсяго матча, ні наогул у другім крузе.

Быў яшчэ адзін эпізод. Узяўшы на сябе гульню, Лявончык "накруціў" на фланзе траіх сапернікаў (першага "праверыў" паміж ног, другога прайшоў на хуткасці, трэцяга "прадавіў" ля вонкавай лініі) і дакладна адпасаваў на лінію варатарскай Якімчуку. На жаль, удар таго нейтралізавалі абаронца і галкіпер.

Кропку ў матчы паставіў той жа Рапецкі, "замкнуўшы" далёкую штангу ў контраатацы, якая распачалася на правым фланзе.

01.11. Славія – Гомель 1:4, Дынама (М) – Дарыда 5:0, Тарпеда-СКА – Белшына 5:2, Дынама (Б) – БАТЭ 0:1, Нафтан – Шахцёр 3:3, Нёман – Зорка-ВА-БДУ 2:0, Лакаматыў – Тарпеда (Ж) 0:0.

05.11. Гомель – Тарпеда-СКА 1:0, Нафтан – Дынама (М) 3:2, БАТЭ – Дарыда 2:0, Шахцёр – Лакаматыў 3:0, Зорка-ВА-БДУ – Славія 2:1.

| | |
|---|---|
| 1. Гомель | 71 |
| 2. Дынама (М) | 64 |
| 3. БАТЭ | 63 |
| 4. Шахцёр | 61 |
| 5. Тарпеда-СКА | 61 |
| 6. Тарпеда (Ж) | 48 |
| 7. Нёман | 39 |
| 8. Нафтан | 35 |
| 9. Днепр-Трансмаш | 34 |
| 10. Белшына | 31 |
| 11. Дынама (Б) | 26 |
| 12. Зорка-ВА-БДУ | 25 |
| 13. Славія | 24 |
| 14. Дарыда | 22 |
| 15. Лакаматыў (М) | 21 |
| 16. Маладзечна-2000 | 16 |

Бамбардзіры: Карніленка (мінскае "Дынама") – 18; Ціханчык (Шахцёр) – 17; Блізнюк (Гомель), Бяганскі (БАТЭ), Мархель (жодзінскае "Тарпеда") – па 16.

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

■ КОНКУРС

## Матчы на сёмы тур

**Падвядзенне вынікаў шостага тура (таксама і вызначэнне пераможцы пятага тура) будзе ў наступным нумары.**

На сёмы тур, які стане апошнім у конкурсе, выстаўляюцца 4 матчы.

Каб вызначыць лепшага ў выпадку раўнавагі паміж прэтэндэнтамі на перамогу, будзе ўжывацца дадатковы крытэрый. Для гэтага ўкажыце аўтараў галоў у складах маладзёжнай зборнай Беларусі і нацыянальнай зборнай Расіі.

### Сёмы тур

**З якім лікам (у асноўны час) 15 і 19 лістапада завершацца матчы плэй-оф адборачнага турніру?**

Маладзёжныя зборныя.

Першы матч. Беларусь – Польшча.

Матч у адказ. Польшча – Беларусь.

Нацыянальныя зборныя.

Першы матч. Расія – Уэльс.

Матч у адказ. Уэльс – Расія.

Адказы на сёмы тур прымаюцца да пятніцы, 14 лістапада, уключна. Іх трэба дасылаць на паштовы адрас рэдакцыі альбо на электронны адрас konkurs@tut.by.

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

**Табло**

■ ФУТБОЛ, НАВІНЫ

**Каманда СКЗ-ДЮСШ-1 са Смаргоні ў апошнім туры абласнога чэмпіянату на выездзе перамагла гродзенскі "Белкард" 3:2 і ў выніку заняла, таксама як і землякі з прафесійнага клуба ў першай лізе, трэцяе месца. Паказчыкі: 12 перамог, 7 нічыіх, 5 паражэнняў, розніца мячоў 44-26, 43 ачкі.**

У складзе на працягу сезона вылучаліся маладыя гульцы абаронцы Аляксей Беніцэвіч і Вадзім Дыро, паўабаронца Вадзім Келбаснік, нападаючы Уладзімір Варатнікоў. Рыхтавалі каманду трэнеры Віктар Страшынскі і Уладзімір Беніцэвіч.

Завяршыўся чэмпіянат у другой лізе. Пуцёўкі ў першую лігу заваявалі "Баранавічы" і нясвіжскі "Верас". Яны заменяць там мастоўскі "Нёман" і "Пінск-900".

■ ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА

**Рэспубліканскі крос адбыўся ў Гродне 1 лістапада.**

Трэція месцы ў сваіх забегах занялі прадстаўнікі рэйёну маладзечанец Яўген Мучынскі (1986-87 г.н., 6 км) і Дзмітрый Яроўскі (1988-89, 3 км) з Вілейскага раёна.

Абласныя кросы ў Мінску і Лідзе прайшлі тры тыдні таму. Першыя месцы ў маладзечанцаў Паўла Вашынкі (1988-89, 2 км), Яўгена Мучынскага (1986-87, 2 км), Руслана Садоўскага (1980 г.н. і старэйшыя, 6 км) і смаргонцаў Дзмітрыя Граматоўскага (1986-87, 3 км), Наталлі Грыневіч (1986-87, 2 км).

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

■ АНОНС

**8 лістапада. Хімік (Светлагорск) – Смаргонь.**

+0=2-1 1-2. У першым крузе 1:1 (Грабаздзін) дома.

**9 лістапада. Дарыда – Маладзечна-2000.**

+0=1-0 1-1. У першым крузе 1:1 (М.Альхавік) дома.

■ АМАТАРСКІ ФУТБОЛ

## Мясцовыя баталіі

**МАЛАДЗЕЧНА. На працягу двух уік-эндаў у зале ЗМК праходзіў турнір па міні-футболе на призы "Залатая восень-2003".**

25-26 кастрычніка 11 каманд высвятлялі адносіны ў трох групах. Іх пераможцы "Забудова", "Пуцеец-1" і "Унікаб" адразу атрымалі правa на выхад у фінальную пульку.

Яшчэ за адну пуцёўку туды 1 лістапада спрачаліся занятыя ў групах другія месцы "ХайБел", "Эком" і "Пуцеец-2". Перамаглі апошнія, але назаўтра, калі чацвёра фіналістаў гулялі ў адзін круг, яны ўсім саступілі. "Пуцеец-1" перамог "Унікаб" 6:2, а "Забудова" з ім згуляла толькі ўнічыю 3:3. Пагэтаму ў вочнай сустрэчы двух лідэраў "Пуцейца-1" задавальняла нічыя. Ва ўпартай баталіі так і атрымалася – 4:4.

1.Пуцеец-1 – 7 ачкоў. 2.Забудова – 5. 3.Унікаб – 4. 4.Пуцеец-2 – 0.

Арганізатар турніру Уладзімір Жукоўскі паведаміў, што лепшым гульцом прызнаны Генадзь Буткевіч (Унікаб). У складах лідэраў вылучаліся Сяргей Півавар (Пуцеец-1) і Аляксандр Грыхуцік (Забудова).

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

■ ФУТБОЛ, ПЕРШАЯ ЛІГА

## «Смаргонь» – трэцяе месца

**Смаргонь – Ліда 2:0 (0:0). 2 лістапада. 3500 гледачоў. Суддзя Кунцэвіч. Галы: Гірко (73), Карасёў (85).**

Склад: 16.Шляхавой – 4.Курак, 2.Сінічын, 3.Давідовіч, 5.Трындзюк (18.Гірко,72) – 6.Тарасаў (17.Шырабокаў,82), 10.Карасёў, 9.Дзігілевіч (15.Кітурка,43), 8.Грабаздзін, 7.Кухлей – 11.Валавік.

Смаргонцы мелі значную гульнявую перавагу, але госці ўпарта супраціўляліся. Ля іх варот было створана шмат момантаў. На вастрыі нашых атак аказаліся пераважна Карасёў і Валавік. Урэшце ціск прынёс свой плён, што прывяло балельшчыкаў у поўны экстаз.

Абодва галы забітыя ўдарамі галавой. Спачатку Гірко першым жа дотыкам да мяча пасля выхаду на замену выкарыстаў навес Кітуркі з левага фланга (1:0). Потым з натоўпу ў штрафной Карасёў паставіў кропку ў працяглай атацы (2:0).

Тым самым Карасёў дагнаў па колькасці забітых галоў Валавіка – у абодвух стала па 8. Дарэчы, у Кітуркі таксама 8 (праўда, толькі 1 ён забіў за "Смаргонь"), у Грабаздзіна – 7, у Кухлея – 6. Так што заключны матч у Светлагорску будзе важны не толькі з пункту гледжання прэстыжу каманды, але і ва ўнутранай гонцы бамбардзіраў.

Па заканчэнні матча адбылося ўрачыстае закрыццё сезона на стадыёне "Юнацтва". Былі ўручаны прыз лепшаму футбалісту каманды ў сезоне, капітану Барысу Карасёву, і прыз глядацкіх сімпатый Валерыю Кураку. Яшчэ доўга пасля матча самыя стойкія балельшчыкі не разыходзіліся, чакалі футбалістаў з раздзявалак, каб лішні раз падкінуць іх у паветра.

| | |
|---|---|
| 1. МТЗ-РІПА | 67 |
| 2. Лакаматыў (В) | 67 |
| 3. Смаргонь | 57 |
| 4. Граніт | 51 |

Мікіта ЛІСТАПАД.

■ ГРЭКА-РЫМСКАЯ БАРАЦЬБА

## Трое самых дужых – нашы

**МАЛАДЗЕЧНА. Гараджане занялі другое агульнакаманднае месца на абласным чэмпіянаце сярод дарослых у Барысаве 1-2 лістапада.**

Трэція месцы на рахунку Міхаіла Фалатовіча (вагавая катэгорыя да 55 кг, 1985 г.н., студэнт БДАФК), Рамана Сільвановіча (84 кг, 1986, навучэнец абласнога ВАР), другое месца ў Сяргея Трубача (74 кг, 1986, навучэнец АВАР). Пераможцам стаў Юрый Візнер (96 кг, 1981, рабочы).

Цікавым атрымаўся п'едэстал гонару ў найбуйнейшай катэгорыі да 120 кг. Трэцяя прыступка за 44-гадовым рабочым Юрыем Татуном, на другой – прадстаўнік раёна, 40-гадовы трэнер з Чысці Сяргей Сафронаў, а пераможца – 22-гадовы студэнт БДАФК Мікалай Гайдук.

**На рэспубліканскіх Алімпійскіх днях моладзі 1987-89 г.н. ў Гродне некалькі прызавых месцаў заваявалі выхаванцы маладзечанскай ДЮСШ (дырэктар Яўген Козел). Першыя месцы ў Аляксандра Забагонскага (вагавая катэгорыя да 58 кг) і Рамана Багданёнка (69 кг). Іх трэнер Мікалай Багданёнак. Трэцім стаў Павел Прадуха (69 кг) – падапечны Віктара Вянглоўскага.**

Дарэчы, школа сёлета, як і раней, перадала некалькіх сваіх таленавітых выхаванцаў у сталічныя вучылішчы. У РВАР накіраваліся Дзмітрый Радзевіч і Антон Аўрыцэвіч, у абласное ВАР – Дзяніс Захараў і Мікіта Матняк.

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

# ВІНШАВАНКІ

**Каманду «Аўтапілот»** віншую з днём КВЗэншчыка!!! Хацелася, каб вы ніколі не страцілі сваю галоўную якасць – уменне смяяцца. *Ад сяброўкі.*

**Веру Рыгораўну Міхалоўскую** віншуем з юбілеем. Жадаем здароўя, моцнага кахання, поспехаў, шмат грошай. *Бельскія.*

**Івана Іванавіча Сураўца** віншуем з 60-годдзем. Жадаем усіх даброт, здароўя, доўгага жыцця, шчасця. *Дачка Святлана і яе сям'я.*

**Ірыну і Аляксандра Ісаенкаў** віншую з гадам сумеснага жыцця. Жадаю моцнага кахання, шмат дзетак. *Кацярына.*

**Валянціну Сяргееўну Гісіч**, загадчыцу д/с №5 г. Вілейка, віншуем з 50-годдзем! Жадаем шчасця, дабра, цяпла. *Калектыў.*

**Яўгенію Іванаўну Алежка** віншую з днём нараджэння. Жадаю моцнага здароўя, шчасця, поспехаў у жыцці, сямейнага дабрабыту, кахання. *Ніна.*

**Настассю Благавешчанскую** віншуем з днём нараджэння!!! *Дружына скаўтаў "Маладэчына".*

**Машачку Вароніну**, любімую дачушку і сястрычку, віншуем з 20-годдзем! Усіх даброт табе, родная.

**Элу Тур** віншуем з днём нараджэння. Жадаем моцнага здароўя, поспехаў у працы, сямейнага дабрабыту, кахання, шчасця. *Рамановічы.*

**Станіслава Іосіфавіча Лужынскага** віншуем з 60-годдзем. Жадаем ад Бога – здароўя, ад сонца – цяпла, ад людзей – дабра. *Ляшковічы.*

**Станіслава Іосіфавіча Лужынскага** віншуем з 60-годдзем. Храни тебя Бог от житейских невзгод, от тяжких болезней, душевных тревог. *Капуцкія.*

**Алену Францаўну Ляцягу** віншуем з днём нараджэння. Жадаем здароўя, шчасця, дабрабыту. *Бацькі, муж, дачка.*

**Аляксандра Ляцягу** віншуем з днём нараджэння. Жадаю моцнага кахання, здароўя, поспехаў у працы, дабрабыту. *Вадвара.*

**Алега** з Маладзечна віншую з заканчэннем рамонту ў кухні. Дзякуй. *Жонка.*

Віншую **сябе з Сусветным днём якасці**. Жадаю сабе якаснага кахання. *Святлана Цішко.*

**Часлава** віншую са звальненнем з катаржнай працы. *Марына.*

**Насцю Благавешчанскую** з Маладзечна віншуюць сяброўка Оля з далёкага замежжа і яе маці і жадаюць святла, шчасця, дабрыні. *Берасневы.*

**Наталлю Макарчык** віншуем з днём нараджэння! Здароўя, прыгажосці, кахання. *Несцеравы.*



# ЗНАЁМСТВЫ

Мужчына 50 год пазнаёміцца з жанчынай. Дасылаць паштоўкі: 222310, Маладзечна, п/п МС 0367626.

Для стварэння сям'і, пазнаёмлюся з самастойнай жанчынай ад 42 да 52 год. Жыллём забяспечаны. Маладзечна-1, п/п МС 0591955.

■ ПАРАДЫ САДАВОДУ І АГАРОДНІКУ

# Што і як рабіць у лістападзе

Зіма застала нас знянацку, і мы не паспелі ўсё зрабіць, як след. Але не варта хваляваца, бо стала цёпла і зноўку можна прымацца за работы ў садзе і агародзе.

Перш-наперш трэба падрыхтаваць кусты і дрэвы. Для гэтага прыгінаюць да зямлі маліну і замацоўваюць яе ў такім стане, каб закрыў снег. Яблыні, грушы і маладыя вішні і слівы абвязваюць яловым лапнікам іголкамі ўніз. Для аховы ад маразоў ствол і тоўстыя сукі беляць вапнай альбо мелам.

Калі кусты парэчак альбо агрэсту моцна загусцелі ці пашкоджаны механічна, то трэба правесці іх абрэзку. На маладых пасадках фарміруюць правільны куст. У першы год пасля пасадкі пакідаюць 4-5 моцных і кампактна размешчаных галін, астатнія выразаюць. На наступны год выразаюць яшчэ 1-2 слабыя галіны. Калі ж куст не густы, галіны не выразаюць, а толькі ўкарочваюць, пакідаючы пянёк з 3-4 пупышак.

Са старых (7-10-гадовых) кустоў выразаюць пераважна пашкоджаныя, хворыя галінкі. Выразаным галлём прыкрываюць суніцы для снегазатрымання і аховы ад маразоў.

Дні, спрыяльныя для сяўбы насення яблынь, груш, сліў і вішань для атрымання саджанцаў, – 7, 8 і 25 лістапада.

Правяраюць яблыкі, бульбу і іншую гародніну, што прызначаная на захоўванне. Асаблівую ўвагу трэба звярнуць на бульбу, якую непрасушанай засыпалі ў сховішчы, бо вільгаць можа стаць прычынай розных хвароб.

У лістападзе можна садзіць, а менавіта 12-14, моркву; цыбулю і часнок – 19-23. Неспрыяльныя дні для сяўбы і пасадкі – 1, 2, 9, 15-17, 24, 28 і 29 лістапада. Квасьце капусту 12-14 і 23 лістапада.

**Альбін МАКАРЭВІЧ, аграном.**

## Кінатэатр «Радзіма»



**7-9 лістапада.**
**"Піраты Карыбскага мора: праклцце Чорнай жамчужыны"**, ЗША, 2 серыі, прыгоды – у 16.00, 18.30 і 21.00.
**10-16 лістапада.**
**"Семнаццацігадовыя"**, ЗША, рамантычная камедыя – у 17.00, 19.00 і 21.00.

### Для дзяцей

**7 лістапада.**
**"Цуда сланяня"**, ЗША, камедыя – у 12.00.
**8 лістапада.**
**"Сняжок"**, Італія, камедыя – у 12.00.
**9 лістапада.**
**"Карлік Нос"**, Расія, поўнаметражны мультфільм – у 12.00.

Дыскатэка: для моладзі – у пятніцу і суботу ў 21.00, для школьнікаў старэйшых класаў – у суботу ў 18.00, для малодшых школьнікаў – у нядзелю ў 15.00.
Працуе бар. Камп'ютэрныя гульні.
Тэл. для даведак: 7-15-92, 7-06-30.

■ ІМЯНІНЫ

**7 лістапада**
**Праваслаўныя**: Анастаса.
**Каталіцкія**: Віліброрда, Энгельберта.
**8 лістапада**
**Праваслаўныя**: Апанаса, Дзмітрыя, Феафіла.
**Каталіцкія**: Віктара, Готфрыда, Клаўдзіуша, Севярына.
**9 лістапада**
**Праваслаўныя**: Аляксандры, Елізаветы, Капіталіны, Андрэя, Марка, Несцера.
**Каталіцкія**: Тодара, Урсына.
**10 лістапада**
**Праваслаўныя**: Неанілы, Праскоўі, Арсенія, Дзмітрыя, Кір'яка, Максіма, Несцера, Сцяпана.
**Каталіцкія**: Андрэя, Любаміра, Лявона.
**11 лістапада**
**Праваслаўныя**: Ганны, Марыі, Абрама.
**Каталіцкія**: Барталамея, Марціна.
**12 лістапада**
**Праваслаўныя**: Алены, Анастасіі, Зіновія, Арцёма.
**Каталіцкія**: Рэнаты, Вітольда, Віктара.
**13 лістапада**
**Праваслаўныя**: Нікадзіма, Нарцыса, Спірыдона, Стахія.
**Каталіцкія**: Бенядзікта, Мікалая, Станіслава.

■ КОНКУРСЫ

## Зарабі білеты ў кіно

Прывітанне! **Ігар Полаз** з вёскі Градзіны, **Дзміры́й Пакладок, Дзяніс, Алеся і Аляксандр Мядзведскія, Аляксей Шчасны, Юрый Юхневіч, Ігар Сільвановіч, Аляксандр Мароз, Сяргей Баранаў, Таццяна Рысік, Людміла Кендыш** з Маладзечна, менавіта сярод вас былі разыграны 8 білетаў у кіно. Пашчасціла наступным удзельнікам розыгрышу: **Ігару Полазу, Алесі і Аляксандру Мядзведскім, Юрыю Юхневічу, Ігару Сільвановічу, Аляксандру Марозу, Таццяне Рысік, Людміле Кендыш.** Заходзьце, калі ласка, да нас у рэдакцыю.

Правільны адказ. Не адрываючы алоўка ад паперы, намаляваць прапанаваную фігуру можна па наступным шляху АВЖЛВЗМВДВДЛНЕДМОЕГОКГЕГНІГБ.

У гэтым выпуску надышоў час падвесці вынікі кастрычніка. Лідэрамі месяца сталі **Дзмітрый Пакладок** і **Ігар Сільвановіч**. Віншую!

На гэты раз прапаную паламаць галаву над наступнымі заданнямі, іх нам даслалі Сяргей Баранаў і Аляксей Шчасны.

1. Пазаўчора Галі было 17 гадоў. У наступным годзе ёй будзе 20. Якога чысла і ў якім месяцы зроблена гэта сцвярджэнне? Чаму?

2. У доме тры гадзіннікі. 1 студзеня ўсе яны паказвалі дакладны час. Але правільна ішоў толькі першы гадзіннік; другі спазняўся на 1 хвіліну ў суткі, трэці на 1 хвіліну ішоў наперад. Калі гадзіннікі будуць працягваць так ісці і далей, праз які час усе яны зноў пакажуць дакладны час?

Чакаю вашых адказаў да наступнага аўторка (11 лістапада) уключна. А цікавыя прапановы і парады прымаюцца з панядзелка па пятніцу з 8.00 да 17.00 без перарыву на абед. Будуць разыграны 3 білеты.

**Падрыхтавала Аксана КУЛЕЎНІЧ.**

■ ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ



## Бульбяны пірог

На 30 порцый. Час прыгатавання: 65 хвілін. Вытрымка цеста: 30 хвілін.

600 г бульбы, якая добра разварваецца, соль, 200 г мукі, 8 сталовых лыжак цёплага малака, 60 г сметанковага масла, 20 г дражджэй, 3 сталовыя лыжкі мёду, 2 яйцы, кардамон на кончыку нажа, сок і цёртая цэдра 1 лімона, 250 г смятаны, 40 г цукру, 1 чайная лыжка карыцы.

1. Бульбу адварыць ў падсоленай вадзе 20 хвілін, абабраць і даць ёй астыць.

2. Замясіць цеста з мукі, малака, 30 г масла, дражджэй, 1 сталовай лыжкі мёду і солі. Накрыць і пакінуць на 30 хвілін. Аддзяліць бялкі ад жаўткоў.

3. Надзёрці на тарцы бульбу. Узбіць жаўткі з мёдам. Дадаць соль, кардамон, сок і цэдру. Змяшаць з бульбай і смятанай. Узбіць бялкі і перамяшаць з масай.

4. Раскачаць цеста на блясе, змазанай тлушчам. Намазаць на яе бульбяную масу. Змяшаць цукар і карыцу і пасыпаць зверху. Раскласці зверху астатняе масла ў камячках. Выпякаць 25 хвілін.

**Проста Марыя.**

■ АСТРАНОМІЯ

## Паўночнае ззянне над рэгіёнам

**Паўночнае ззянне было над нашым рэгіёнам у ноч з 29 на 30 кастрычніка.**

У 2 гадзіны 2 хвіліны ночы па мясцовым часе астраном–аматар з Маладзечна **Іван Сяргей** у паўночнай частцы неба заўважыў чырванаватае зарыва ў форме трохкутніка вышынёй прыкладна ў 30 градусаў. "Штосьці падобнае я і чакаў убачыць пасля паведамлення аб магутнай успышцы на Сонцы ў канцы кастрычніка", – паведаміў ён у электронным лісце на наш адрас.

На фоне ззяння размяшчаліся бялявыя палосы пад вуглом прыкладна 70 градусаў да гарызонта. Колер фона мяняўся ад бледна–чырвонага да ярка–чырвонага. З'ява знаходзілася паміж сузор'ямі Вялікай Мядзведзіцы і Льва. Праз сем хвілін ззянне знікла. А ў 2 гадзіны 11 хвілін з'явіліся вялікія бялявыя і не надта яркія авальныя плямы ў паўночна–заходнім сектары неба ў вобласці сузор'яў Цэфея і Лебедзя. Вышыня іх дасягала 70 градусаў над гарызонтам. У 2 гадзіны 17 хвілін размытыя плямы ператварыліся ў чоткія бялявыя слупы сярэдняй інтэнсіўнасці шырынёй 12–15 градусаў і вышынёй прыкладна 80 градусаў у раёне Касіяпеі, Лебедзя, Цэфея.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

## Назірайце зацьменне

**Поўнае ценевае месяцавае зацьменне, якое будзе відно ў Еўропе, адбудзецца ў ноч з 8 на 9 лістапада.**

Абставіны зацьмення для каардынат Маладзечна атрыманы астраномам–аматарам **Іванам Сяргеем** з дапамогай камп'ютэрнай праграмы–планетарыя "StarCalk", аб чым ён паведаміў "Рэгіянальнай газеце".

Пачатак асобнай фазы поўнага зацьмення пачнецца ў 1 гадзіну 32 хвіліны па мясцовым часе. У гэты момант левы край дыска стане нячоткім і быццам бы зрэзаным. Гэта абумоўліваецца ўступленнем месяца ў цень Зямлі. Месяц у гэты час будзе знаходзіцца у паўднёва–заходнім сектары неба на вышыні каля 50 градусаў над гарызонтам. Далей дыск Месяца пачне "знікаць", і ў 3 гадзіны 6 хвілін пачнецца поўнае месяцавае зацьменне з максімальнай фазай у 3 гадзіны 18 хвілін. У гэты момант звыклы для нас дыск свяціла знікне, аднак, калі прыгледзецца, то можна ўбачыць цёмна–шэры дыск. Цёмнае месяцавае зацьменне можа ўказваць на засмечванне зямной атмасферы прадуктамі вулканічных вывяржэнняў.

Поўнае зацьменне скончыцца ў 3 гадзіны 30 хвілін. Мы ўбачым серпік месяца, які паступова павялічваецца, і ў 5 гадзін 4 хвіліны асобнае зацьменне скончыцца.

Наступнае месяцавае зацьменне мы ўбачым толькі 4 мая 2004 года, але тады ўмовы назірання будуць горшымі з–за вельмі нізкай вышыні Месяца над гарызонтам.

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

## Купон 45

рэгіянальная газета

да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы». Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў. Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.

тэкст

прозвішча, імя, адрас (не для друку)

### Звярніце ўвагу

**Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!**
**Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання і нумар дакумента ўладальніка. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!**

